

№ 10 (27)

Сакавік 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:


Асобы ў краязнаўстве: Валянцін Рассіхін і яго Брэст – *стар. 2*

Нашы назвы: не проста набор гукаў – *стар. 3*

Вынісцы: мінуўшчына і сёння маленькай вёсачкі – *стар.4*

"Радавод Міншчыны": спецыяльная старонка абласной газеты – *стар. 5*




*Школьнае краязнаўства*

## Юбілеі раёна

ВЯЛІКІЯ ПАДЗЕІ складаюцца з мноства, можа быць, нязначных датаў. Нязначных для дзяржавы, вобласці. Але помных для раёна ці нейкага рэгіёна. Ушанаваць падзеі і адзначыць іх якраз і мусіць адмысловы конкурс сярод раёнаў Віцебскай вобласці на лепшы каляндар юбілеяў, які праводзіць абласное аб'яднанне па арганізацыі пазашкольнай працы з дзецьмі і падлеткамі. Нядаўна ў абласным цэнтры адбылося падвядзенне вынікаў па сёлетніх каляндарах. Удзел у конкурсе ўзялі амаль усе раёны, а з некаторых прыйшло па дзве працы, і амаль усе ўдзельнікі прыехалі на ўрачыстасць – сябе паказаць, сяброў знайсці, досведам падзяліцца, ад іншых розуму набрацца.


*(Заканчэнне на стар. 2)*



Дзякуй даўнім і новым сябрам нашай газеты! Мы радыя, што нас становіцца болей. Давайце ж пашыраць нашую сябрыну – цяпер ідзе падпіска на другі квартал. Не губляйцеся ў вялікім свеце сучаснай мітусні!

**Падпісныя індэксы і кошты:**

**індывідуальны** – 63320 (3 300 рублёў на месяц), **ведамасны** – 633202 (3 409 рублёў на месяц).

*"... і дзякуй скажа родны край"*


*З сівой даўніны*

## Спрадвечнае кола ганчара

***Раней, яшчэ гадоў сто таму, амаль кожная вёсачка Беларусі мела сваіх ганчароў, разьбяроў, кавалёў, гарбароў, якія заўсёды былі ў пашане. Але з цягам часу народныя промыслы пачалі знікаць. Колішнія майстры паміралі, так і не перадаўшы сакрэты свайго ўмельства будучаму пакаленню. Цяпер нямнога засталося куткоў, якія захавалі сваю багатую, шматвяковую культурную спадчыну. Адным з іх з'яўляецца вёска Гарадная, што на Століншчыне. І да сённяшняга часу тут круціцца спрадвечнае кола ганчара.***

Схаваная ў самай глыбіні Палесся, сярод балот ды лясоў, удалечыні ад вялікіх і малых рэк, Гарадная ніколі не жыла ізалявана. Шчодрая прырода здаўна вабіла ў гэтыя мясціны людзей. Знойдзеныя непадалёк гарадзішча і паселішча бронзавага веку таму пацвярджэнне. Але выраб глінянага посуду бярэ свой пачатак у часы рассялення дрыгавічоў. Ужо з 1448 года (дата першага афіцыйнага ўпамінання) вёска вядома як ганчарны цэнтр. У крыху пазнейшыя часы мясцовыя майстры былі аб'яднаны ў цэх, які меў статут. Спецыяльная арганізацыя існавала і ў гандляроў, якія па некалькі тыдняў ездзілі з поўнымі вазамі посуду ад вёскі да вёскі. Нялёгка было ім. Нярэдка нават зімою даводзілася начаваць у лесе. Гараднянскія збаны, глечыкі, міскі былі вядомы на Валыні, Панямонні, пад Вільняй і Варшавай, не гаворачы пра Палессе. І ўсюды карысталіся попытам, таму што вызначаліся ў першую чаргу трываласцю.

Падчас казацка-сялянскай вайны 1648–1651 гадоў вёску спалілі татары, узяўшы 700 чалавек у палон. Тыя падзеі адлюстраваліся ў тапаніміцы. Да сённяшняга часу возера ў Гараднай называюць Татарскім стойлам. У 1670 годзе (па некаторых звестках – у 1579-м) вёска атрымала магдэбургскае права і герб – выява ласся з залатымі рагамі на сярэбраным полі. Два наступныя стагоддзі Гарадная мела статус горада. Гэта быў час шырокага развіцця ганчарнай справы.

У першыя гады пасля Вялікай Айчыннай вайны, ведаючы нежаданне сялян, асабліва ганчароў, ісці ў калгас, мясцовыя Саветы прынялі рашэнне знішчыць горны (гораны) – печы для абпальвання посуду... Калгас стварылі, але старажытны народны промысел не быў забыты. І цяпер многія гаспадары працягваюць справу прадзедаў.

Арсенці Шэлест, мясцовы ганчар, павітаўшыся, адразу запрасіў у майстэрню. Значную частку яе займае печ. Тут жа інструменты, неабходныя для распрацоўкі гліны. Пад столлю на падвясных паліцах сушыцца посуд.

– Займаюся ганчарствам з дванаццаці гадоў, – гаворыць майстар. – Справа гэта складаная, але цікавая. Хоць гандаль посудам на кірмашы ідзе не так бойка, але захапленню свайму не здраджваю. І ўвесь зімовы дзень круціцца ў маёй майстэрні ганчарнае кола.

Нядаўна ў мясцовым клубе быў створаны Цэнтр ганчарства, а пры ім – краязнаўчы музей. Яго экспазіцыя пачынаецца з фотавыставы, якая знаёміць з вядомымі майстрамі ганчарнай справы. Увагу на сябе адразу звяртае здымак пачатку XX стагоддзя, на якім паказаны ганчар (тыповы з выгляду беларус-паляшук) за працай.

– Бачыце, раней кола круцілі нагамі, – патлумачыла кіраўнік Цэнтра Алімпіяда Леанавец. – Цяпер жа, у асноўным, усё замяняе электрычнасць. А вось на гэтым здымку – Мацвей Пячонка. У дзяцінстве ён страціў правую руку, але, нягледзячы на гэта, так налаўчыўся працаваць, што ўсе толькі дзіву даваліся. Калісьці ў нас лічылася за сорам няўменне рабіць гліняны посуд. Дзяўчаты нават і не думалі выходзіць замуж за такіх хлопцаў-няўмек.

У дзвюх залах музея вялікая колькасць збаноў, глечыкаў, гаршкоў, місак самых розных памераў і форм. Пасярэдзіне першай стаіць "паляк" – вялікі гаршчок. У яго ўлазіць аж пуд зерня. Поруч "банька", якая выконвала раней ролю сучасных тэрмасаў. Налітая ў яе калодзежная ці крынічная вада заставалася сцюдзёнай нават пасля працяглага знаходжання пад спякотным сонцам. Таму "баньку" заўсёды бралі на сенажаць. А вось "слуй" выкарыстоўваўся для захоўвання мёду. У ім жа гатавалі парыш. Грэчневая мука, залітая ахалоджаным кіпнем, настойвалася некалькі дзён на печы. Пасля чаго атрымліваўся своеасаблівы кісель. На засланым саматканымі рушнікамі заслончыку размясціўся "адзінец", які змяшчае ў сабе да 12 кг зерня. Яму, дарэчы, каля 300 гадоў. Уздоўж сцен на паліцах – паліваны і непаліваны посуд. Паліваны, каб быў мацнейшы, як растлумачыла кіраўнік Цэнтра, пасля абпальвання апрацоўвалі спецыяльным растворам.

У другой зале знаходзяцца рэчы побыту вяскоўцаў: ткацкі станок, прасніца, верацёны і г.д. А яшчэ тут ёсць "мамзэлікі" – самыя маленькія збаночкі. Незвычайная назва, аказваецца, пайшла з французскай мовы. Легенда гаворыць, што напалеонаўскія салдаты, якія праходзілі праз Гарадную, назіралі неяк за працай ганчара. Ад захаплення ўбачаным нехта з іх сказаў: "О, мадмуазэль!" Вяскоўцы запомнілі слова і сталі ўжываць яго ў сваім значэнні.

Існуе ў Цэнтры і майстэрня, дзе працуюць два ганчары – Георгій Велясніцкі і Аўрам Басавец. Апроч асноўнай працы, яны навучаюць 16 вучняў, перадаючы ім сакрэты сапраўднага ўмельства.

Назіраючы за тым, як ганчары мнуць гліну, рыхтуючы яе для будучага посуду, разумееш, якая нялёгкая ў іх справа. Каб стварыць самы звычайны, немудрагелісты збаночак, гліну трэба нарыхтаваць восенню, калі не расце трава. Затым даўбенькаю (своеасаблівы драўляны молат) збіць у "бабку". Пасля стругам, каб не засталося каменьчыкаў, парэзаць на маленькія лісточкі. І толькі тады, памачыўшы ў вадзе, мяць, каб не ліпла да рук. Далей вынік залежыць ад фантазіі ганчара. А яна заўсёды ў мясцовых майстроў была багатая. Кожны збаночак, глечык, калі добра прыглядзецца, нечым адметны. Ён нібыта жывы, бо ганчар аддае яму часцінку сваёй душы. Гэта лёгка зразумець, гледзячы, як Георгій Васільевіч і Аўрам Мікалаевіч працуюць за ганчарным колам.

Добра, што ёсць такія зацікаўленыя людзі! Толькі дзякуючы ім круціцца кола беларускай культуры, старажытнай, таямнічай.


***Ігар ГРЭЧКА,***
***студэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка***


**На здымках аўтара**: Велясніцкі Георгій Васільевіч, адзін з нямногіх ганчароў, якому не патэрбна электрычнасць для працы за ганчарным колам; каля экспанатаў краязнаўчага музея Леанавец Алімпіяда Дзмітрыеўна; Арсеній Шэлест і ягоныя збаны





Школьнае краязнаўства

# Юбілеі раёна

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)**

Па-рознаму падрыхтаваліся дзеці да сустрэчы ў Віцебску. У Оршы перад абласным святам краязнаўцаў прайшло раённае, дзе і адабралі лепшы каляндар "на вобласць". Мерапрыемства асвятляла мясцовае тэлебачанне. Вучні-складальнікі каляндара Мёршчыны з дапамогаю дарослых здолелі сваю працу надрукаваць ў наваполацкай друкарні накладам тысяча асобнікаў, цяпер кожны ахвочы можа набыць яго сабе, падараваць гасцям раёна. Вучні Іванскай СШ Чашніцкага і Ветрынскай СШ Полацкага раёнаў (з дапамогаю настаўнікаў) знайшлі звесткі пра мінуўшчыну радзімы ў архівах. Адмыслова для свята вучні СШ № 5 з Наваполацка падрыхтавалі імправізаваную тэлеперадачу "Галасы роднай зямлі". А краязнаўцы з Лужасна маюць свой сайт у сеціве (Інтэрнэце) – www.kraj.vitebsk.net. Вучні віцебскай СШ № 4 падрыхтавалі крыжаванку па датах, звязаных з гісторыяй роднага горада.

Не абышлося на свяце без цікавых адкрыццяў ды неспадзяванак. Стваральнік першага ў свеце музея Францыска Скарыны (праўда, у далёкім Лондане) – Чэслаў Сіповіч з Дзедзіна на Мёршчыне. Перад вайною ў Аршанскім раёне быў калгас "Вызваленне жанчын". Знакаміты Бен-Іегуда паходзіць з мястэчка Шаркаўшчына. Вёска Росіца на Верхнядзвіншчыне мае сваіх нябёсных заступнікаў Юрыя Кашыру і Антонія Ляшчэвіча, якіх Ян Павел ІІ узвялічыў да хвалы алтара. Артыстка Ірына Мураўёва, юбілей якой быў нядаўна, – ураджэнка Оршы. Спіс знаходак юных краязнаўцаў можна доўжыць. І якраз за дапытлівасць, уніклівасць, імкненне падаць факты даступна і па-свойму арганізатары стараліся хаця б неяк адзначыць кожны прадстаўлены каляндар, у чым ім дапамаглі фундатары.

Былі на свяце і прызы ад Беларускага фонда культуры, "Краязнаўчай газеты" і Генрыха Далідовіча – выданне "Новай зямлі" на трох мовах, камплекты газеты за гэты год, выданні твораў намесніка галоўнага рэдактара нашай газеты. Некалькіх удзельнікаў БФК адзначыў сваімі ганаровымі граматамі. Знаёмім чытачоў з імі.

Гурток "Непаседы" Росіцкай базавай школы Верхнядзвінскага раёна. Вучні невялікай школкі здолелі не толькі сабраць багата звестак пра свой населены пункт, але і пра раён, насіцілі працу цікавымі звесткамі, для некаторых падзеяў яны падабралі цікавыя азначэнні. Так, яны прыгадалі дні смерці многіх выдатных землякоў, пазначыўшы іх як Дзень памяці.

Другую грамату атрымала вучаніца СШ № 1 горада Браслава Тамара Алексій за выдатную індывідуальную працу. Усе прадстаўленыя календары – вынік працы калектываў школьнікаў, а Тамара стварала яго адна, абапіраючыся на дапамогу настаўніцы гісторыі М.М. Каханові́ч. Шматстаронкавы каляндар, вялікая колькасць датаў і персаналіяў, багацце інфармацыі ды ілюстрацыяў – вынік працы не дзеля галачкі.

Уганараванне пераможцаў сёлетняга конкурсу скончылася, а праца працягваецца. Будуць календары наступных гадоў. А пакуль, як зазначыў загадчык аддзела беларусазнаўства і краязнаўства абласнога аб'яднання Алег Куржалаў, будзе падрыхтаваны зводны каляндар па вобласці. Мы ж у бліжэйшых нумарах вернемся да летапісцаў Віцебшчыны – пазнаёмім з лепшымі працамі.

*Уладзімір ПУЧЫНСКІ*

Пабрацімства

## Кранштат – Асіповічы

Гэтыя расійскі і беларускі гарады ўжо даўно падтрымліваюць рознабаковыя сувязі, асабліва ў сацыяльнай сферы, намаганнямі кіраўнікоў, педагогаў, ветэранаў.

Сёлета гэтыя сувязі павінны падмацаваць школьнікі: і асіповіцкім навучэнцам прапанавана напісаць рэфераты на розныя тэмы, прысвечаныя 300-годдзю з часу заснавання паўночнага расій-скага горада. У маі гэтага года нашы школьнікі-пераможцы змогуць пабыць там і пазнаёміцца з гістарычнымі мясцінамі, з равеснікамі-пабрацімамі на святкаванні юбілею.

Нашы перспектывы

## Эксперымент на выжыванне

Па дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, летась доля стратных прадпрыемстваў у Беларусі склала 31,5 працэнта ў прамысловасці, 58,1 працэнта – у сельскай гаспадарцы. Лічбы цікавыя ў святле таго, што фінансавае аздараўленне эканомікі мяркуецца пачаць з поўнай ліквідацыі стратных прадпрыемстваў у прамысловым комплексе краіны і скарачэння напалову ў сельскай гаспадарцы згодна з паведамленнем прэс-службы Прэзідэнта. Прыбытак і рэнтабельнасць стануць вызначальнымі катэгорыямі для далейшага існавання прадпрыемстваў. Разлічваць ім прыйдзецца выключна на сябе: ільгатаванне будзе мінімальнае. Як і бартэрныя разлікі, якія да канца года павінны быць скарочаны да двух працэнтаў. Адпаведна да канца 2004 года пабачым, якім айчынным прадпрыемствам удасца выжыць.

***"АиФ в Беларуси", 25 лютага 2004 г.***

Асобы краязнаўства

### Валянцін Рассіхін:

# "Брэст – другая мая малая Радзіма"

***Кніга "Памяць. Брэсцкі раён" магла б быць не такой аб'ёмнай і змястоўнай без удзелу Валянціна Рассіхіна. Ён не толькі адзін з аўтараў, але і член камісіі па стварэнні раённай і гарадской кніг «Памяць». Працаваў не толькі як арганізатар, але і як складальнік спісқаў загінулых воінаў і камандзіраў Чырвонай Арміі на зямлі Брэсцкага раёна і горада Брэста, як аўтар хроніка-дакументальных нарысаў па вызваленні раёна і горада ад фашыстаў.***

Нарадзіўся Валянцін Паўлавіч у 1927 годзе ў горадзе Ішыме Цюменскай вобласці. На другі дзень пасля свайго 17-годдзя атрымаў павестку. Ішоў 1944 год, гэта быў апошні ваенны прызыў, але не на фронт, а ў Цюменскае ваеннае вучылішча. Хутка прыйшла перамога, яго дэмабілізавалі. Бацькучыгуначніка ў ліпені 1945 года перавялі ў Брэст, так Валянцін Паўлавіч апынуўся ў Беларусі.

У Брэсце працаваў піянерважатым, камсоргам, інструктарам абкама камсамола, вучыўся ў Мінскай вышэйшай партыйнай школе на аддзяленні друку, радыё і тэлебачання. У 1952 годзе дэбютаваў у газеце карэспандэнцыяй пра работу піянерскай арганізацыі. Быў літаратурным супрацоўнікам абласной газеты "Заря", потым член Саюза журналістаў, з 1974 года працаваў у аддзеле прапаганды і агітацыі Брэсцкага райкама партыі і ў рэдакцыі "раёнкі" "Заря над Бугом" да выхаду на пенсію ў 1987 годзе.

Валянцін Паўлавіч пераглядаў свой літаратурна-журналісцкі архіў і на яго аснове была завершана кніга "Память – это прошлое". Надрукавацца не ўдалося, і цяпер толькі з'явіліся фрагменты невялікімі тыражамі. Гэта восем кніжак: "С той войны далекой мы все ждем тебя", "Он мой герой", "Друзья детства", "Июль сорок четвертого. Освобождение", "Стихи, зарубки памяти моей", "Одно море для всех, а любовь у каждого своя", "Третий лишний", "Вокруг счастья", "Все уж так сложилось". "На жаль, шырокай аўдыторыі іх амаль немагчыма мець, – гаворыць Валянцін Паўлавіч. – Тыраж іх больш чым сімвалічны, але я ад гэтага не вельмі крыўдую". Свае кнігі Валянцін Рассіхін пераслаў у Ішымскую цэнтральную гарадскую бібліятэку, а таксама шчодра перадаў у бібліятэкі Брэста, напрыклад у абласную бібліятэку трапілі 25 экземпляраў.

Жанр кнігі "Память – это прошлое" не толькі мемуарны. Многія падзеі жыцця аўтара не падыходзяць па форме для пераказу, таму падзеі далёкіх дзён раскрыты праз жанр п'есы. Уражанні юнацтва, першае каханне знайшлі адлюстраванне ў п'есе "Третий лишний". Другая п'еса Валянціна Рассіхіна называецца "Вокруг счастья", таксама аб праблемах адносін між людзьмі. У зборніку вершаў "Стихи, зарубки памяти моей" адчуем чаканне Перамогі, боль паэта за свае юнацтва, за родных, моцную веру ў дабро. У выдадзеных частках рукапісу – праўда жыцця, душа аўтара, сэрца якога па-ранейшаму б'ецца ў рытме жыцця, адлюстроўвае яго на паперы.

Праца над спісамі загінулых чырвонаармейцаў на тэрыторыі раёна запатрабавала такіх прафесійных якасцей журналіста, як падрабязнае вывучэнне фактаў, дакладнасць, аргументаванасць. Валянцін Рассіхін разаслаў 1 200 лістоў сваякам загінулых салдат у розныя куткі былога Савецкага Саюза, бо многія не ведалі месца захавання. У адказах людзі дзякуюць за дапамогу ва ўстанаўленні месца гібелі брата, мужа, бацькі і ўвекавечанне іх прозвішча ў кнізе.

Валянцін Паўлавіч застаецца актыўным краязнаўцам і пасля выхаду ў свет хронікі "Память". Аднойчы з мясціцы у газеце фотаздымак помніка расстраляным мірным жыхарам, на які натыкнуўся ў лесе. На другі ж дзень Валянцін Паўлавіч знайшоў мяне ў бібліятэцы, папрасіў фатаграфіі, падрабязна распытаў пра знаходку і адразу склаў план дзеяння. Па яго меркаванні, неабходна было знайсці мясцовых жыхароў, што даглядаюць помнік, распытаць старажылаў, якія ведаюць пра трагічныя падзеі 1942 года, запрасіць архівы аб тых людзях, што ўвекавечаны на шыльдачцы. У выніку з'явілася грунтоўная публікацыя ў раённай "Заре над Бугом".

***Уладзімір СУХАПАР, галоўны бібліёграф аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага***

Адукацыя: рэформы?

# У ВНУ – з 3 красавіка

Лепш сказаць, сёлетнім паступоўцам у ВНУ ёсць магчымасць 3 красавіка гэтага года пачаць праходзіць тэсціраванне (моднае цяпер англійскае слова – test – выпрабаванне, даследаванне) па англійскай і нямецкай мовах. 4 красавіка пройдуць спецыяльныя іспыты па хіміі, 10-га – па фізіцы, 17 і 18 – па біялогіі і матэматыцы. Гэтыя іспыты для навучэнцаў не абавязковыя, па жаданні, і будуць улічвацца ўсімі ВНУ краіны. Як мяркуецца, сёлета на гэты эксперымент, у якога ёсць прыхільнікі і праціўнікі, (як, дарэчы, і школьнай дзесяцібальнай ацэнкі ведаў), пойдзе да 100 тысяч юнакоў і дзяўчат.

Як бачым, у праграме Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў для выяўлення здольнасцей, схільнасцей, валявых якасцей нашых маладых людзей няма для іх папярэдніх іспытаў па ведах цяперашніх дзвюх нашых дзяржаўных моў – беларускай і рускай. Гэта, безумоўна, больш чым дзіўна: вуснае і пісьмовае веданне моў – найпершая зарука гарманічнага развіцця юнай асобы, выхавання з яе паўнацэннага грамадзяніна сваёй Бацькаўшчыны. Але, можа, яшчэ больш дзіўна тое, што пасля заканчэння навучальнага года школьнікі будуць здаваць абавязковы экзамен толькі па адной мове: гэты "вольны выбар" свядома не ўкарысць карэнны, тытульнай мовы нашай краіны, бо яна свядома выціскаецца з ужытку ад дзіцячых садкоў да ўрадавых устаноў. Такой парадаксальнай, неразумнай сітуацыі, здаецца, няма ў ніводнай былой рэспублікі СССР: яна, гэтая сітуацыя, першнаперш абражае народ, краіну, мову, гісторыю і культуру, падрэзае пад корань будучыню. На самым высокім узроўні неабходна вяртаць беларускую мову ўсюды на яе законны пасад, прымаць усе неабходныя меры для забеспячэння яе дзяржаўнасці.

Сёлета запланавана ўнесці папраўкі ў ход платнага і бясплатнага ЦТ – цэнтральнага тэсціравання. За свой кошт ахвотнікі могуць прайсці яго ў красавіку ў любым горадзе Беларусі, дзе ёсць гэтае ЦТ, і ўсе вынікі будуць улічваць. А вось удзельнікі (выпускнікі і будучыя паступоўцы ў ВНУ) адзінага бясплатнага цэнтралізаванага экзамена па мовах будуць прымацаваны да пэўных ВНУ, тэхнікумаў і г.д., дзе ёсць вялікія аўдыторыі.

Скажу шчыра, я, былы настаўнік, дзеяч культуры, не зусім разумею такіх навацый. І не толькі за тое, як і куды будуць падвозіць вясковых дзяцей, колькі іх можа быць (не пазней сярэдзіны красавіка ім трэба ўжо вызначыцца, якую мову яны выберуць для абавязковага экзамена). Ды болей хвалююся за іншае: за псіхалагічна-маральны ўціск на маладую душу, за аб'ектыўнасць у ацэнцы іх ведаў. Гэта ўсё ўскладняецца тым, што сёлета шлях юнакам і дзяўчатам без ЦТ у ВНУ будзе зачынены! Колькі можа быць розных выпадковасцей, нявотных пралікаў, разліковай неаб'ектыўнасці экзаменатараў, а з імі і калі не пакалечаных, то збітых з панталыку лёсаў! Памойму, наўрад ці варта было ўсё гэта паспешна сканцэнтроўваць у руках Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў, неабходна было далучыць да абмеркавання гэтых эксперыментаў шырэйшыя слаі грамадства. Я размаўляў з многімі настаўнікамі, бацькамі на гэты конт: многія з іх, асабліва вясковыя, былі заклапочаны ўжо тым, што яшчэ нядаўна не мелі на руках адпаведных дапаможнікаў, метадычак, не ўсе з іх, як гарадскія, могуць паспрабаваць "на зуб" папярэдняе тэсціраванне, якое за плату могуць ажыццявіць некаторыя нашы ВНУ. Значыць, паступоўцы будуць загадзя ў няроўных умовах.

Што да вышэйзгаданай неаб'ектыўнасці, то яна не выключаецца, калі ЦТ будзе праходзіць адначасова не ў сотнях, а ў дзвюх, а то і трох тысячах аўдыторый. Дык што – будзе столькі і назіральнікаў? Зусім аб'ектыўных? Загадзя не азнаёмленых з тэстамі? Іх жа, тэсты, складаў, выдаваў не адзін чалавек – дырэктар вышэйназванага інстытута ці міністр адукацыі!

Спачуваю вам, юнае пакаленне, і па-бацькоўску жадаю вытрымаць тыя новарэформенныя іспыты і дабіцца жаданага!

*Генадзь ДОЙЛІД*

Музеі адукацыі

## Не толькі пра парты і ўрокі

Ёсць у нас і такія, хоць пакуль што не зусім вядомыя і знаёмыя шырокай грамадскасці, як, скажам, у Расіі і на Украіне.

Тым не менш у адной з мінскіх гімназій ужо некалькі гадоў існуе Музей гісторыі гімназічнай адукацыі. Як вядома, у царскай Расіі гімназіі былі ў кожным губернскім і многіх павятовых гарадах. Напрыклад, на пачатак XX стагоддзя ў нас было каля 15 дзяржаўных і больш 20 прыватных жаночых гімназій. Навучальны год у царскія часы працягваўся 240 дзён і цягнуўся з сярэдзіны жніўня да пачатку лета, а ўрокаў па навучальным плане было не менш пяці гадзін. У свой час, напрыклад, Мінскую гімназію скончылі (ці вучыліся ў ёй) Томаш Зан, Янка Лучына, Ядвігін Ш., браты Іван і Антон Луцкевічы, Свіславіцкую – Напалеон Орда і Кастусь Каліноўскі.

Нядаўна на Гомельшчыне, у Калінкавічах, адкрыўся яшчэ адзін музей, дзе можна пазнаёміцца з гісторыяй узнікнення школ, з рэдкімі фотаздымкамі першых настаўнікаў і навучэнцаў, з дакументамі ранейшых часоў – дарэвалюцыйнымі падручнікамі, сшыткамі, дзённікамі.


Замежны альбом: горад-музей Венецыя

Радыёэфір

## Выбіраючы вушамі, не забывайся здымаць локшыну

Сёння (на канец 2003 года. – **"КГ"**) у Мінску можна слухаць 12 FM-станцый. Але гэта не значыць, што ўсе яны дзеляць пароўну слухачоў і рынак рэкламы. Апошнім выпрабаваннем на трываласць стала ўвядзенне квот на абавязковую прысутнасць беларускай музыкі. 1 ліпеня 2003 г. увойдзе ва ўсе падручнікі як дата пачатку эксперымента па пад'ёме беларускай музыкі. Менавіта з гэтага дня 50 працэнтаў музыкальнага эфіру айчынных радыёстанцый павінна належаць беларускай музыцы.

Аднак на практыцы беларускай мовы ў радыёэфіры не стала болей. Нават наадварот (тут і далей падкрэслена намі. – **"КГ"**). Антонаў, Свірыдава, "Би-2", "Краски" і інш., канечне, маюць права называцца беларускімі выканаўцамі (па пашпарце ці па месцы нараджэння). А тым часам адзіная беларускамоўная станцыя пакінула FM-дыяпазон.

Можна толькі здагадвацца пра наступствы, калі б такое абмежаванне датычылася не толькі радыё, але і тэлебачання – СТВ і ОНТ адчулі б усю вабнасць новаўвядзенняў. А пакуль тэлеканалы жнуць плады эксперыментаў з радыё, калі ашалелая ад "нефарматнай" беларускай музыкі рэкламадаўцы лічаць выгаднейшым мець справу з тэлебачаннем.

### *Ідэальны слухач*

... Зборны вобраз слухача, на якога арыентуюцца практычна ўсе мінскія FM-станцыі, напамінаюць аб'явы з рубрыкі знаёмстваў "коратка пра сябе..." у выкананні заклапочанага станоўчага мужчыны, знямоглага без жаночай пяшчоты, такога, як Карлсан, у самым росквіце сіл – 18–45 гадоў, мае "высокую пакупную здольнасць..."

Гэтакае пякельнае жаданне адной-адзінай групы слухачоў мае і даволі канкрэтнае тлумачэнне – прадстаўнікі гэтай групы маюць найбольшую пакупную магчымасць.

Тым не менш большасць станцый імкнецца найвыгадней і паспяховей прадаць сябе, і толькі адзінкі гатовыя па-ранейшаму рабіць перадачы "для ўсіх і кожнага". Пагэтаму музыкальнае напаўненне эфіру адпаведна падбіраецца.

Распаўсюджваюцца гульні з супрацоўнікамі офісаў як доказ таго, што радыё слухаюць на рабочых месцах. Праўда, радыё слухаць не забароніш, і школьнікі, якія пазвоньваюць у эфір са сваімі прывітаннямі, некалькі псуюць ідылію.

### *Суседні FM*

У сталіцах блізкіх да Беларусі дзяржаў перадаюць у эфір больш за два дзесяткі FM-станцый.

Паколькі дыяпазон частот аднолькавы ва ўсім свеце, то і ў нашага FM-рынка яшчэ ёсць магчымасці для росту.

Праўда, у адрозненне ад беларускага радыёрынка, у суседзяў нашмат большая разнастайнасць.

... Хоць гэта не азначае, што ў суседзяў няма станцый, якія працуюць у падобным фармаце. Хутчэй наадварот, але канкурэнцыя накіравана не супраць усіх адразу, а даволі адрасна, калі "Русское радио" спаборнічае за сваю аўдыторыю з "Нашим радио", "Эхо Москвы" – з "Новостями online".

Як ні дзіўна, але FM-станцый на нацыянальнай мове няма *толькі ў Беларусі.*

Выразна выяўлены фармат станцыі мае на ўвазе больш, чым проста аўдыторыю з пэўнымі характарыстыкамі...

*Са скарачэннем з "Беларускай газеты". Пераклад з рускай мовы.*

**Ад рэдакцыі.** ***Выбіраць вачамі і вушамі па нашых тэлебачанні і радыё, уласна, няма чаго, а ад локшыны вельмі не пазбавішся. Яна абвальваецца на галаву кожны дзень і агромістымі порцыямі.***

***На вялікі жаль, гэта зусім не смешна ці абыякава. Не. Гэта – небяспечна, бо такая навала пашляціны істотна пагражае нашай духоўнасці, светапогляду, нашаму фізічнаму і маральнаму здароўю, калі мы ўжо не грамадзяне, не свядомыя і культурныя людзі сваёй краіны, а "потребители" зусім нежаданай, сухамятнай локшыны.***

***Варта адзначыць, што яшчэ нядаўна была беларускамоўная FM-станцыя "Сталіца"... А задоўга да пастановы аб працэнтах беларускай музыкі ў радыёэфіры слухачоў здзіўляла (і працягвае радаваць) "Авторадио" – беларускамоўныя праекты кшталту "Народнага альбому" там не рэдкія. Каб толькі яны былі часцей і не на адной радыёстанцыі.***

Нашы назвы

## Імя – сэнс, лёс, гармонія

***Булгашчына, Мілешава, Тапілы, Цімафеева палянка... Гэтыя словы не кожнаму шмат гавораць. Але калі іх пачуе нехта з ураджэнцаў вёскі Паўстынь, што ў Слуцкім раёне, то адразу ўспомніць свае родныя мясціны: палі, лясы, сенажаці, урочышчы. Гэтыя назвы аб'ядноўваюцца адным словам – мікратапонімы.. Гэта адзін з самых каштоўных скарбаў беларускай мовы, які яшчэ мала вывучаны. У той жа Паўстыні я ад старажылаў запісаў каля шасцідзесяці назваў геаграфічных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў наваколлі вёскі. А калі б удалося скласці поўны слоўнік падобных назваў, то атрымалася б невялікая энцыклапедыя паселішча, з якой можна даведацца і пра тутэйшую гісторыю, і пра людзей, якія жылі тут некалі і якія жывуць цяпер.***

Прыкладна трэцяя частка паўстынскіх мікратапонімаў паходзіць ад імя або прозвішча чалавека, які меў тое ці іншае дачыненне да пэўнай мясціны. Напрыклад, Пятроў імшок, Арынчына балотца, Шулякоў хутар, Цімафеева палянка, Качуроў мост, Антосева плёса, Гаўрыліна, Макарава... Даўно няма гэтых людзей, а іх імёны, калі можна так сказаць, сталі неад'емнай часткай прыроды. Паспрабуйце сёння назваць той жа Качуроў мост ці Бараноўскае поле неяк інача – штосьці зусім не тое. І нават у тым выпадку, калі ад самой мясціны засталася толькі назва.

Старажылы расказвалі, што некалі ехаў на кані ў Паўстынь з Ліпнікаў анучнік Шэндар. А ў той час паміж гэтымі вёскамі ляжала ржавае балота, парослае хмызняком, парэзанае глыбокімі ручаінамі. У адным месцы трэба было пераязджаць уброд. Што і як там адбылося – ніхто не ведае, але конь з возам і Шэндар апынуліся ў багне. Каня і воз сяк-так выцягнулі людзі, што прыбеглі на крык, а Шэндара так і не знайшлі. Даўно няма таго балота, і нічога не нагадвае пра даўні трагічны выпадак, засталася толькі назва – Шэндараў брод.

Шмат якія назвы паказваюць характар рэльефу або раслінnасці ў той ці іншай мясціне: Грабнік, Задуба, Лозка, Высокая палянка, Падхваечча, Лясок, Крушнік. Не менш трапнымі з'яўляюцца такія мікратапонімы, як Глінішча, Сапегава куп'ё, Тапілы, Студзянец. Праўда, некаторыя назвы ўжо не зусім адпавядаюць сучаснай характарыстыцы адпаведнай мясціны. Напрыклад, на месцы Сапегава куп'я зараз прасціраецца раўнюткае поле, а ў Тапілах хіба толькі пасля вялікага дажджу з'яўляюцца лужыны. Не кажу ўжо пра тое, што наўрад ці хто з вяскоўцаў помніць, калі апошні раз у Ваўкаўні зўважалі ваўкоў.

На жаль, прыродны ландшафт часта мяняецца не да лепшага, асабліва ў выніку дзейнасці чалавека. Сёння можна толькі ўспамінаць, якія сакавітыя буякі раслі некалі ў Пятровым імшку або якія "ваенныя баталіі" разгараліся паміж намі, вясковымі хлапчукамі, у Арынчыным балотцы. Каля імшка ў свой час пабудавалі свінагадоўчую ферму, балотца аказалася ў акружэнні меліярацыйных каналаў, і за якіх-небудзь трыццаць гадоў ад тых маляўнічых мясцін мала што засталося, акрамя невялікіх купак дрэў. А што будзе яшчэ праз дзесяткі гадоў?

Трэба аддаць належнае нашым продкам, якія ў кожнай назве змаглі замацаваць галоўную прыкмету, што адрозніе мясціну ад іншай, дакладна пакавае яе месцазнаходжанне. Таму і нельга зблытаць Машыну палянку і Баброўню, Маяк і Пададрынку ці Вершавыя са Сцежкай або Аколаўшчынай.

Дарэчы, пра назву ўрочышча Вершавыя. Яна паходзіць ад слова "верша". Так называецца рыбалоўная конусападобная прылада з тонкіх дубцоў або дроту. Калісьці ў гэтым месцы працякала рэчка, дзе вадзілася нямала рыбы; вяскоўцы і лавілі яе вершамі. Ураджэнка Случчыны пісьменніца Алена Васілевіч у аповесці "Доля знойдзе цябе" пісала: "Вельмі цікава пaглядзець, як прыходзіць які-небудзь паўстынскі дзядзька з мехам выбіраць замерзлую рыбу з пастаўленай нанач у палонцы вершы..."

Даўно ўжо не патрэбны паўстынцам вершы: рэчку тую спрамілі і зрабілі звычайнай канавай, пра рыбу можна толькі марыць. Дарэчы, не няма і ў шматлікіх меліярацыйных каналах, якія з'явіліся тут ў 60–70-х гадах мінулага стагоддзя. І вось што цікава: каналаў шмат, а ніводзін з іх не атрымаў ад паўстынцаў свайго "імя". У энцыклапедыі "Блакітная кніга Беларусі" знайшоў звесткі пра Паўстынскі канал даўжынёй 5,9 кіламетра, які "пачынаецца за 1,5 кіламетра на паўночны ўсход ад вёскі Ліпнікі, вусце за адзін кіламетр на поўдзень ад вёскі Паўстынь". Дакладна ведаю, што самі жыхары вёскі так канал не завуць. Ёсць яшчэ канал К-2, але гэта з тэхнічнай дакументацыі. Хіба паўстынцы не знайшлі трапных слоў, каб назваць каналы? Ведаючы землякоў, вельмі ў гэтым сумняваюся. Хутчэй за ўсё, не палічылі патрэбнымі вяскоўцы ўвекавечыць тое, што створана штучна, што бязлітасна пераўтварыла некалі маляўнічае паўстынскае наваколле ў амаль суцэльнае поле.

Прыклад з каналамі сведчыць, што новыя мікратапонімы ўзнікаюць вельмі і вельмі рэдка, а вось старыя ўсё больш і больш забываюцца, выходзяць з ужытку. У паўстынцаў, напрыклад, шырока выкарыстоўваюцца 15 – 20 назваў, ды і то больш сярод людзей сталага веку. Маладзейшыя калі назавуць 8 – 10, то і добра. Дадам, што сёння прыкладна чвэрць жыхароў Паўстыні – людзі прыезджыя, якія не ведаюць мясцовай тапанімікі. З цягам часу мы можам страціць многія ўзоры цікавай, вобразнай мовы, якой зямля "размаўляе" з намі.

Таму нельга не пагадзіцца з дацэнтам Гомельскага дзяржаўнага універсітэта Аляксандрам Рогалевым, які ў сваёй кнізе "Сцежкі ў даўніну" піша: "Назвы – гэта неад'емная частка нашай спадчыны, своеасаблівы сімвал, у якім спалучаюцца гістарычныя адбіткі і светапогляд народа... яны – такі ж помнік нашай гісторыі, як і высечаныя з граніту манументы і абеліскі".

***Анатоль ЖУК, г. Слуцк***





***Добры дзень вам са Слуцку!***

***Прывітанне ад журналіста Віктара Філіпчыка. Ваш знаёмы, супрацоўнік мясцовага музея, Васіль Цішкевіч падказаў выслаць гэты газетны нарыс у вашу рэдакцыю, і буду ўдзячны і ўзрадаваны, калі ён спадабаецца паважанай "Краязнаўчай газеце", на далейшае сяброўства з якой спадзяюся.***

***На тэрыторыі Слуцкага раёна знаходзіцца крыху болей за дзве сотні буйных сёл і маленькіх вёсачак. У мінулым годзе рэдакцыя мясцовай раёнкі "Слуцкі край" пачала расповед менавіта пра невялічкія вёсачкі, дзе жывуць, у асноўным, пенсіянеры, – "апошнія з магікан". Ужо надрукавана пяць нарысаў, працы ж хопіць на доўгі час, бо плануецца выходзіць з такімі буйнымі матэрыяламі дзесьці раз на месяц. Але справа таго каштуе, бо, як паказаў першы, мінулагодні вопыт, чытачам такая тэматыка прыйшлася па душы. Яны пішуць пра гэта, тэлефануюць, запрашаюць у госці. Дзякуй Богу, не ўсе яшчэ забыліся пра родныя карані, святыя свае мясціны.***

# ВЫНІСЦЫ

***Запрашаем вас, паважаныя чытачы, у вёску Вынісцы Покрашаўскага сельсавета. Тут 126 асабістых гаспадарак, пражывае 235 чалавек. З іх да 18-гадовага ўзросту – 26, ад 18 да 60 гадоў, працаздольных, – 58, пенсіянераў – 151.***

Вясковыя вуліцы Садовая, Цэнтральная, Маладзёжная – акуратныя, чыстыя, дагледжаныя. Толькі дзе-нідзе каля асірацелых хацін пацямнелыя платы сваімі ратамі-дзіркамі як бы просяць рамонту. Прама ў цэнтры Вынісцаў – вясковыя могілкі, на іх тэрыторыі захаваўся трывалы, з валуна, фундамент былога драўлянага касцёла. Новы, з белай цэглы 10 гадоў таму пабудавалі на свае сродкі жыхары Вынісцаў побач з могілкамі бацькоў і дзядоў. Дапамаглі ў гэтай святой справе мясцовыя гаспадарка і сельскі Савет. Заўважу, што ў гады "ваяўнічага сацыялізму-атэізму" (у 70-х гадах мінулага стагоддзя) у старэнькі пагосцкі касцёл па моднай камуністычна-гаспадарчай звычцы спрабавалі ссыпаць збожжа. Але мужныя жанчыны-каталічкі ачысцілі свой святы куточак, зноў прынеслі абразы, не збаяліся міліцыі, калі яе аўтамабільны нарад спрабаваў "навесці парадак". Прама ад калгасных буртоў, дзе яны перабіралі бульбу, прыбеглі жанкі на абарону роднага касцёла. З нажамі ў руках, рашучыя, непадступныя, справядлівыя ў сваёй веры: "Хоць страляйце, але не пусцім у касцёл!" Слава Богу, ніхто не страляў, але веруючыя паказалі свой характар, перамаглі. Так, сёння іншыя часы! Веруем...

Вясной літаральна ў кожнай вынісцкай хаціне на кухнях і ў залах – мяшкі і скрыні з зеленаватай, з дзябёлымі расткамі бульбай-"сямянкай". Дзе-нідзе і проста акуратненька раскладзена прама на падлозе па сартах: "скарб", "планта", "галандская фелёзіка", "архідэя"... Усё па навуцы. Вёска не першы год, так бы мовіць, спецыялізуецца на продажы ранняй бульбы. Рэалізаваўшы яе, атрымаўшы грошы, вяскоўцы засейваюць зямельку-карміцельку буракамі, якія да позняй восені яшчэ паспяваюць стаць пузатымі.

**Для даведкі:** *1) "Назвы-тэрміны: вынне – натуральная паляна, вялікая прагаліна сярод лесу" (В. А. Жучкевіч. "Краткий топонимический словарь Белоруссии". Мн., 1974). 2) У часы, калі слуцкія землі былі ў складзе Вялікага княства Літоўскага, група палякаў за нейкую правіннасць была выселена з Польшчы і паселена асобна ў Слуцкім княстве. Пра іх можна сказаць, што яны былі вынішчаны, бо назаўжды выселены з родных мясцін. Адсюль і атрымала вёска першапачатковую назву Вынішчы. У пісьмовых крыніцах пачатку XX стагоддзя вёска – у складзе Грэскай воласці Слуцкага павета – 83 двары, 594 жыхары ("Памяць. Слуцкі раён. Слуцк.").*

Калі я паставіў пад сумненне лясное паходжанне назвы вёскі Вынісцы, то тутэйшыя карэнныя жыхары Павел Маркавіч і Марыя Віктараўна Шкурскія мяне тактоўна паправілі: "Гэта цяпер вакол вёскі няма лесу. А мы добра памятаем, як у часы вялікай меліярацыі магутныя бульдозеры выцягвалі з балотнай багны 7–8-метровыя таўшчэзныя дубы. Было гэта ў 1960-я гады, ды і цяпер на асушаных плошчах калі-нікалі "выходзяць" з тарфянікаў рэшткі векавых веліканаў. Некаторыя з нашых гаспадароў ставілі з тых пачарнелых дубоў моцныя шулы, якія ім паслужылі не адзін дзясятак гадоў. Так што лесу, кустоў-хмызнякоў тут хапала".

Ураджайная зямелька прывабіла ў гэтыя мясціны дзядулю, майго аднафамільца, 82-гадовага Анатоля Адамавіча Філіпчыка:

– Дзед мой, Мікалай, быў родам з Уздзеншчыны, купіў тут два дзесяткі гектараў зямлі ў пана Радзівіла. Гэта былі дзесяціны поля, лесу, сенакосу і балота. Працы хапала ўсім чатыром яго сынам – Мікалаю, Сымону, Івану і майму бацьку Адасю, а таксама дачцэ Соні. Жылі яны тады недалёка адсюль, на хутары. Не панствавалі, бо мой бацька паехаў у 1914 годзе на заробкі ў Амерыку. Там ужо ўладкаваўся да таго часу адзін з нашых сваякоў па матчынай лініі (яе дзявочае прозвішча было Мяцельская). Вярнуўся бацька ў 1920 годзе, а ў 1929-м, якраз у сенакос, яго забралі, як бы цяпер сказалі, супрацоўнікі КДБ. Пры вобыску яны знайшлі ў хаце 700 даляраў. Але самае цікавае, што восенню бацька вярнуўся дамоў з паўнюткім скураным чамаданам (які, дарэчы, прывёз з-за акіяна) савецкіх грошай. Вось было свята! Разам з маёй старэйшай сястрой Анютай бацька потым у Мінску ў "Торгсіне" (гэта накшталт савецкіх магазінаў "Бярозка") купіў некалькі скруткаў сукна, паркалю, швейную машынку. Як яны ўсё гэта толькі ўжо дацягнулі, не памятаю, але сястра хутка навучылася добра шыць і справіла ўсім нам касцюмы, кашулі, сукенкі...

Адама Мікалаевіча немцы ў 1943 годзе застрэлілі, прыняўшы яго за "партызана", калі ён ішоў лугавінай каня перавязаць. Двое яго братоў загінулі на войнах – белапольскай і Айчыннай.

Анатоль Адамавіч таксама прайшоў франтамі Вялікай Айчыннай, ваяваў пад Сталінградам і на Курскай дузе, з пехацінца "перакваліфікаваўся" ў штурмана пікіруючага бамбардзіроўшчыка ПЕ-2. Двойчы яго самалёт быў падбіты, але абодва разы дацягваў да сваіх. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. У мірныя гады стаў будаўніком, пабудаваў, "лічы, не адны такія Вынісцы". Разам з жонкай Леакадзіяй Антонаўнай вырасцілі двух сыноў і дачку, маюць шэсць унукаў і трох праўнукаў. Іх старэйшы сын, 46-гадовы Валянцін, зараз знаходзіцца на дыпламатычнай службе, з'яўляецца саветнікам-дарадцам пасла Беларусі ва Украіне.

**Для даведкі:** *на мемарыяльнай дошцы каля помніка, які ўстаноўлены на цэнтральнай калгаснай сядзібе ў в. Ленькі, выбіты імёны 39-ці воінаў, былых жыхароў Вынісцаў, якія не вярнуліся да родных веснічак. За апошнія год-другі Другая сусветная вайна "дагнала" сваіх удзельнікаў, сапраўдных герояў. Памерлі ад ранаў і часу разведчык У. Я. Дробыш, які прайшоў праз усю вайну, баявыя афіцэры П. Д. Шкурскі (быў, дарэчы, пасляваенным камендантам Вены) і А. І. Дробыш, радавы С. А. Лабковіч...*

Вынісцы славяцца сваімі народнымі ўмельцамі, майстрамі пляцення кошыкаў, карзінак, іншых экалагічна чыстых сялянскіх ёмістасцей. З імі хоць у лес па грыбы-ягады, хоць на базар па яйкі ці штосьці іншае. Лёгка, прыгожа, зручна.

– Я нашы вынісцкія кошыкі з кветкамі бачыў па тэлевізары каля ўрадавай трыбуны, калі сам Брэжнеў выступаў, – горача даказваў мне адзін мясцовы дзядуля. Я не стаў пярэчыць, бо гэта даўняе рамяство было тут калісьці сапраўдным культам. Плялі гэтыя самыя карзіны літаральна ў кожным доме. Везлі іх як у Слуцк, так і ў Мінск.

– Справа гэта была для маіх аднавяскоўцаў хлебам у прамым сэнсе гэтага слова, – гаворыць майстар "залатыя рукі" Роза Міхайлаўна Шкурская. – У цяжкія калгасныя гады, калі за працу ставілі палачкі-працадні, калі не было наяўных грошай, шчыльненька састаўляеш горкай дватры дзесяткі кошыкаў, выходзіш на папутную машыну – і ў сталіцу. Прадаеш карзінку, скажам, за пяць рублёў, а бохан хлеба каштаваў капеек 14 – 16. Накупіш мяшок хлеба, гасцінцаў дзецям – і дамоў.

Плятуць гэтыя самыя прывабныя вырабы з лазы, клёну, крушыны. Аздабляюць сапраўды высокамастацкія творы рознакаляровымі пластыкавымі вузенькімі палосачкамі. "Пляцёнкі" выходзяць проста цуд!

Сёння традыцыйнае вынісцкае рамяство працягваюць весці родная сястра Розы Міхайлаўны – Зінаіда Міхайлаўна Гардзель, Міхаіл Рыгоравіч Гардзель, Соф'я Іосіфаўна Шкурская і іншыя вяскоўцы.

– А ўнукі, дзеці вашы? – пытаюся ў паважанай майстрыхі, праца якой на абласных і рэспубліканскіх кірмашах адзначана шматлікімі дыпломамі, граматамі.

– Унук Сяргей, яму 13 гадоў, неяк прыгледзеўся ды да двух гадзін ночы сплёў прыгожанькую карзіначку. Але ён цяпер у Мінску, у ваеннай акадэміі вучыцца, другімі справамі займаецца...

Так, пластыкавае вядро лёгка адштампаваць. Але крыўдна будзе, калі разам з сапраўднымі, ад саміх каранёў, народнымі майстрамі адыдзе ў нябыт гэта прыгажосць, згубім цікавую традыцыю, набытак дзесяцігоддзяў. Хоць ты школу рамёстваў у Вынісцах адчыняй! Пакуль не позна.

А ў хаце народнага майстра "залатая іголка" Вольгі Рыгораўны Шкурскай усе сцены – бы той казачны кветкавы рай! Непаўторныя, яркія, фантастычныя кветкі на вялікіх, бы пано, прамавугольніках тканіны, на падушках, бялюткіх коўдрах, прасцінах – усюды!

Зазначу, што матчыну справу-захапленне падхапіла старэйшая дачка Аляксандра Бойка, якая жыве ў Слуцку.

– Яна нават мяне апярэджвае, – смяецца Вольга Рыгораўна. – Вышывае хутка і вельмі чысцютка, прыгожа, натуральна.

А мой погляд вабяць высокія падушкі, на якіх раўнюсенька выведзена яркімі чырвонымі ніткамі: "Салодкага сну!" і "Спакойнай ночы!"

Чытачоў можа зацікавіць пытанне: а ці ёсць будучыня ў Вынісцаў? Людзі сталага, пенсіённага ўзросту гаварылі, што былі тут некалі аўчарня, свінарнік, добрыя кароўнікі (зараз паловы ранейшага вялікага статка няма), а цяпер – адны ўспаміны. Якое тое заўтра? Тут бы, як у той казцы пра славутага Мальчыша-Кібальчыша: ноч прастаяць ды дзень пратрымацца. Ды надзея ўсё ж такі заўсёды ёсць. Тут жа, у Вынісцах, з'явіліся малдаўска-беларускія сем'і.

Ідэя вярнуцца да родных мясцін, да сваіх бацькоўскіх каранёў належыць былому кішынёўцу геолагу Аляксандру Андрэевічу Дробышу. Яму 62 гады, мае дзве вышэйшыя адукацыі, дзякуючы прафесіі пахадзіў-паездзіў па белым свеце нямала. У гады перабудовы, якія той жа Малдове, як і ўсім нам, прынеслі больш праблем-клопатаў, чым задавальнення, прадаў чатырохпакаёвую сталічную кватэру і перабраўся з дзецьмі ў бацькоўскі кут. Спадзяецца развярнуцца як фермер-жывёлавод, стварае сваю міні-ферму. Але праблем пакуль што болей, чым трэба: нізкія закупачныя цэны на малако, адсутнасць добрых сенакосаў. Наогул, праблема з сенам для Вынісцаў – галаўны боль вяскоўцаў, таму толькі за апошні вельмі сухі год сваіх каровак прадалі дзесяткі жыхароў.

Жыве ў Вынісцах яшчэ адна малдаўская сям'я – Хушану, але яна прыехала раней. Маюць, у асноўным, па двое дзяцей маладыя бацькі Галаі, Гардзелі, Бенешы, Вядзьмакіны, Лабковічы, Філіповічы... Так што вынісцкаму роду, будзем спадзявацца, не будзе пераводу!

***В. ФІЛІПЧЫК***

**На здымках:** В. Р. Шкурская; Ю. А. Зубовіч

***Фота А. ЖОГЛЫ***







У пісьмах і тэлефонных званках у рэдакцыю, падчас сустрэч з намі, журналістамі, на "выязных лятучках" і ў працоўных калектывах многія з чытачоў выказвалі прапановы наконт з'яўлення ў "Мінскай праўдзе" тэматычнай старонкі для тых, хто любіць свой край, з гонарам вымаўляе слова "Міншчына", шануе яе гістарычную спадчыну і хоча больш ведаць пра яе мінулае.

Нягледзячы на тое, што наша газета і да гэтага шмат увагі ўдзяляла матэрыялам краязнаўчай накіраванасці, ідэя тэматычна аб'яднаць іх у асобным спецвыпуску прыйшлася нам да душы. І вось летась мы вынеслі на суд чытачоў яшчэ адзін праект – гісторыка-краязнаўчую старонку "Радавод Міншчыны". Спыніўшыся менавіта на такой яе назве, мы сышліся на тым, што яна яшчэ павінна адлюстроўваць і глыбокі сэнс. Таму "радавод" мае ў адрозненне ад агульнапрынятага больш шырокае значэнне – гэта найперш сабраныя разам дробныя крупінкі і буйныя гістарычныя пласты з мінуўшчыны. Як часта будзе з'яўляцца "Радавод Міншчыны", – у многім залежыць і ад чытачоў. Мы запрашаем да супрацоўніцтва краязнаўцаў, настаўнікаў, работнікаў устаноў культуры, школьнікаў і ўсіх, у каго ў душы цепліцца іскрынка пазнання гістарычнай спадчыны, роднай зямлі, стваральных спраў і адметных падзей у жыцці продкаў. Спадзяёмся, што разам мы зможам скласці цікавы радавод Міншчыны.




Мы горача вітаем выхад "Краязнаўчай газеты" і з вялікім задавальненнем адгукаемся на прапанову прадастаўіць ёй некаторыя нашы матэрыялы.

*Сяргей ГАЛОЎКА,*
*рэдактар аддзела адукацыі і культуры "Мінскай праўды", вядучы тэматычнай старонкі "Радавод Міншчыны"*

## Компас у гісторыю рэгіёна

У занальным філіяле дзяржархіва Мінскай вобласці ў г. Маладзечна створаны банк дадзеных знамянальных і памятных дат.

Асновай для яго паслужыла распрацаваная супрацоўніцамі архіва – загадчыцай аддзела выкарыстання і публікацыі дакументаў Наталляй Іванавай і архівістам Аксанай Кандрашовай – камп'ютэрная праграма "Каляндар". На сённяшні дзень, як паведаміў дырэктар занальнага архіва ў Маладзечне Расціслаў Герасімовіч, у памяць камп'ютэра занесена звыш двухсот памятных дат і анатацый да іх з гісторыі г. Маладзечна, Мядзельскага, Вілейскага, Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў.

Згаданы камп'ютэрны банк дадзеных – надзейны компас на шляху пазнання мінуўшчыны Маладзечанскага рэгіёна.



*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

## Па старым Ігуменскім тракце

***Нячаста аматарскія музеі, створаныя па ініцыятыве энтузіястаў, набываюць статус дзяржаўных. А школьнаму музею, што ў п. Азёрны Чэрвеньскага раёна, пашанцавала.***

Дзякуючы былому дырэктару мясцовай школы В. Несцяровічу музей быў створаны на радзіме Станіслава Манюшкі і набыў сусветную славу. Шырокавядомы кампазітар, стваральнік першай польскай оперы, жывучы ў еўрапейскіх сталіцах, С. Манюшка часта вяртаўся на радзіму да сваіх бацькоў і братоў. Шлях кампазітара пралягаў з Мінска па старым Ігуменскім тракце. Праедзем ім і мы.

Выязджаючы з цяперашняй сталіцы, С. Манюшка спыняўся ў маёнтку Лошыца ў сваіх сяброў Прушынскіх. У сярэдзіне XIX стагоддзя сядзіба Лошыца была асяродкам дэмакратычнай інтэлігенцыі Мінска – сюды на балі прыязджалі паэт і драматург В. Дунін-Марцінкевіч, "вясковы лірнік" У. Сыракомля... 200-гадовыя ліпы ўяўных прысад памятаюць гэтых гасцей. Наўсцяж іх мы выходзім да сядзібнага дома, у якім пасля рэстаўрацыі будзе створана мастацкая экспазіцыя, прысвечаная нашым героям.

Размешчаная ў маляўнічай мясцовасці паміж Ігуменскім трактам і ракой Свіслач, ахутаная таямнічымі легендамі, сядзіба Лошыца і сёння прываблівае аматараў прыроды і мастакоў. Павандраваўшы па алеях, убачыўшы руіны млына, будынак бровара, экзатычныя расліны – магнолію "кобус" і маньчжурскі абрыкос, – кіруемся па былым Ігуменскім тракце далей.

У цэнтры в. Каралішчавічы бачым вялікі будынак клуба. Гэта перабудаваны касцёл, дзе ў часы С. Манюшкі меўся арган. На ім неадночы іграў вядомы кампазітар.

Паўгадзіны аўтападарожжа па шырокай Магілёўскай шашы – і мы ў Смілавічах. У канцы XVIII стагоддзя гэтае мястэчка – цэнтр колішняга Бакштанскага графства – перайшло да Манюшкаў. У пачатку XIX стагоддзя на падмурках старога будынка ўзведзены палац. Існуе паданне, што ў дзяцінстве С. Манюшку вельмі ўразілі куранты, якія доўга адбівалі поўнач. Потым кампазітар адлюстраваў гэтую сцэну ў оперы "Страшны двор".

Палацава-паркавы комплекс – галоўная славутасць Смілавіч. Ягоным гаспадаром з'яўляецца сельскагаспадарчы каледж. У парку расце шмат экзотаў, многа іх высаджана ў апошнія 20 гадоў.

Здаўна жывуць тут татары. Уся зарэчная (за Волмай) частка мястэчка значылася як мусульманская. Яшчэ ў 1856 г. уладальніцы Смілавічаў, сёстры С. Манюшкі – Паўліна і Барбара, ахвяравалі пляц на пабудову тут мячэці. На жаль, яе драўляны будынак быў разабраны.

Мы ж развітваемся з утульным гарадком і кіруемся да былога фальварка Убель – радзімы С. Манюшкі. На месцы сядзібы, у цені старых таполяў, устаноўлена стэла. У перспектыве плануецца аднаўленне сядзібнага дома. А пакуль Манюшкавым асяродкам з'яўляецца школа ў суседнім пасёлку Азёрны з адзіным у свеце музеем кампазітара. Справу В. Несцяровіча працягвае яго дачка І. Серада. Многія матэрыялы музея з'яўляюцца рарытэтнымі. Маецца літаратура пра Манюшку, поўны збор ягоных твораў, тэатральныя касцюмы, рэпрадукцыі работ Ч. Манюшкі – бацькі кампазітара. Кажуць, калі ў яго нарадзіўся сын Стась, у дом заляцела ластаўка і зашчабятала, прадракаючы хлопчыку музычны талент. Таму і Манюшкаўскі фестываль, які штогод у маі праводзіцца на яго радзіме, мае назву "Убельская ластаўка".

***Ігар ГАТАЛЬСКІ,***
***галоўны спецыяліст Мінскага абласнога турцэнтра***



***На здымку:** рэпрадукцыя малюнка Н. Орды "Сядзіба ва Убелі". Тут нарадзіўся Станіслаў Манюшка*

## Адкуль "ямщик" родам?

Сярод аматараў рускага раманса ёсць нямала прыхільнікаў і народнай песні "Ямщик", у аснову якой пакладзена трагічнае здарэнне, якое рэальна адбылося ў сярэдзіне XIX стагоддзя непадалёк ад... Стоўбцаў.

А папярэднічалі яму наступныя падзеі. У адзін з нядзельных дзён 1844 г. арандатар фальварка Залучча, што бліз цяперашняй стаўбцоўскай в. Жукаў Барок, Людвік Кандратовіч выбраўся ў славуты замкам Мір. Наведаўшы касцёл і крамы, ён зайшоў у карчму. Там і пачуў гісторыю пра трагічнае каханне паштовага фурмана. За куфлем піва кампанеец залучанскага арандатара расказаў, як аднаго разу ў люты мароз паслалі яго з тэрміновым пакетам у недалёкае стаўбцоўскае пасяленне. На дарозе яму здалося, што хтосьці сярод сумётаў просіць паратунку. Памкнуўся на голас, але, успомніўшы пра важнасць даручэння і спакусу завітаць на зваротным шляху ў суседнюю вёску да каханай дзяўчыны, паімчаў далей. Вяртаючыся, на тым месцы, дзе чуў крык, вздок прыцішыў каня, бо ў гурбе снегу ўбачыў нешта падобнае на чалавечую постаць. А калі ён злез з саней і падышоў бліжэй, то ад нечаканасці анямеў – перад ім ляжала нежывая каханая дзяўчына.

Гэты драматычны аповед запаў у душу Л. Кандратовіча. Прыехаўшы дамоў, ён узяўся за пяро і пачутае па-польску запісаў вершам. Напісанае адаслаў у Вільню. Гэты верш пад назвай "Паштальён" з'явіўся ў часопісе "Атэнэум" і займеў вялікую папулярнасць, якая і надала залучанскаму арандатару творчай сілы: узяўшы псеўданім Уладзіслаў Сыракомля, ён заявіў аб сабе як паэт. А ягоны верш-першынец пазней атрымаў нечаканы працяг. Рускі паэт Л. Трэфелеў пераклаў яго на рускую мову. Пераклад атрымаўся добры, верш замацаваўся яшчэ і ў рускім фальклоры: народная песня "Когда я на почте служил ямщиком..." – не што іншае, як пераўвасабленне "Паштальёна".

***Алесь ЗАНЯМОНЕЦ***

## *Чаму назвы некаторых вёсак пачынаюцца з "мі"?*

Даўным-даўно ў невялікім паселішчы Міхайлаўшчына жыла шматдзетная сям'я. Калі падраслі сыны Мікіта, Мікола, Міця, Міхалка ды Міхайла, бацька сказаў:

– Цесна тут у нас, зямлі мала. Трэба вам, сынкі, падацца ў свет. Вы ўсе працавітыя, кемлівыя ды стройныя. Сустрэнеце такіх жа дзяўчат, пабудуеце хаты, будзеце ладзіць сваё гаспадаркі. Ды і мяне з маці запросіце да сябе ў госці, каб паглядзелі на ўнукаў...

І вось адночы ў Міхайлаўшчыну прыйшлі запрашэнні: сын Мікіта клікаў у свае Мікіткі, Мікола – у Мікольцы, Міця – у Міціненты, Міхалка – у Міхалі, Міхайла – у Міхайлава.

Час ішоў. У гэтых вёсках вырасла новае пакаленне, якое таксама разляцелася з роднага гнязда. Пасяліўшыся на новым месцы, маладыя людзі думалі, як назваць паселішча. Адзін з іх прапанаваў:

– Няхай кожны назаве яго па-свойму, з выдумкай і фантазіяй, але каб назва пачыналася з "мі", як у нашых бацькоў, дзядулі.

Так узніклі Мілты, Мінчакі, Місуны, Мікасецк, Мігдалава, Міцькавічы. Праўда, на сённяшні дзень населеныя пункты Міхайлава, Мігдалава, Міхайлаўшчына і Міцькавічы ўжо не існуюць. Іх жыхары пасля вайны пераехалі жыць у іншыя вёскі.

***М. ЧАРНЯЎСКІ,***
*к. п. Нарач*





# Жаночае аблічча Беларусі

(Працяг. Пачатак у № 9)

Як унікальны зрэз гісторыі чалавецтва варта разглядзець яшчэ адзін паварот у лёсе беларускага народа: умацаванне на старажытных беларускіх землях феадальна-прыгонніцкіх адносін у XVIII стагоддзі. Варта нагадаць, што пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі, значна прыглушыўшы развіццё нацыі. І гэта ў той час, калі Еўропа рухалася да знішчэння абсалютызму. Калі ж гаварыць пра адносіны да жанчыны ў тагачаснай Расійскай імперыі, то паказальным можна лічыць запіс у такім, здавалася б, перадавым дакуменце, як Статут арганізацыі дзекабрыстаў: «Жаночы пол у Саюз не прымаецца». Маючы на ўвазе, што становішча жанчыны, яе роля непасрэдна залежаць ад узроўню дэмакратызацыі грамадства, значнае ўвагі заслугоўвае хутчэй XX стагоддзе – перыяд развіцця капіталізму і паскоранага працэсу ўключэння жанчын у вытворчасць. Жаночае пытанне ўсё болей актуалізуецца, шырыцца плюралізм меркаванняў і падыходаў да яго рэалізацыі.

На беларускіх землях, насельніцтва якіх пастаянна прыгняталася і было пазбаўлена магчымасці карыстацца роднай мовай, у народа існаваў асаб-



Эмілія Плятэр

лівы «прававы шчыт». Гэта той кодэкс народнай маралі, які ставіўся да жанчыны як да захавальніцы нацыянальна-генетычнай памяці з глыбокай павагай. У зводзе народнага светапогляду сцвярджалася права жанчын на свабоду, унутранае жыццё і моцныя пачуцці. Хаця доўгія стагоддзі прыгнёту пакінулі адмеціны і шрамы на жаночых лёсах і ў жаночым светаразуменні, нязменным заставаўся стрыжань – статус захавальніцы нацыянальнага быцця, мовы і культуры, нацыянальных традыцый. Асабліва важным было тое, што жанчына перадавала ўсё новым і новым пакаленням іх родную мову, у сувязі з чым згадаем, што «мова – той азонавы слой, які дазваляе больш-менш устойліва функцыянаваць, развівацца і нарошчваць свой патэнцыял усім астатнім чыннікам культуры нават у неспрыяльных для яе палітычных, эканамічных і сацыяльных умовах...» (Валянцін Акудовіч. «Літаратура і мастацтва». 28 лютага 1997 г.). Адвечны клопат беларускіх жанчын розных эпох выказала пазней слынная Ларыса Геніюш:

*У горы я над тваімі ранамі...*
*Божа, болей цябе не карай,*
*старажытны, любы, каханы мой,*
*вечна скованы родны край!*
*Мой курганны, жытні, зубрыны мой,*
*вытрывалы ў агні пакут,*
*Ефрасіннін, святы, Скарынавы*
*Беларускі адвечны кут.*

Такім чынам, вобраз Радзімы заўсёды лучыўся з вобразам беларускай жанчыны-захавальніцы, жанчыны-змагаркі.

Аднак сапраўды адчувальнае ўваходжанне беларускіх жанчын у сферы грамадскага развіцця павінна было пераадолець эвалюцыйныя этапы, ствараючы новыя абрысы жаночай думкі ўвогуле. І калі першай жанчынай-пісьменніцай прынята лічыць мяркуемую аўтарку «Жыція... Еўфрасінні Полацкай» Еўпраксію, то працягвае гэты элітарны спіс жанчына абсалютна іншага характару, пра што сведчыць нават назва яе рукапісу, датаванага 1760 годам – «Авантуры майго жыцця». Праз стагоддзі нам усміхаецца прыхільніца моднага ў тыя гады авантурнага жанру Саламея Пільштынова з Навагрудка – першая жанчына-ўрач і пісьменніца, геаграфія «падарожжаў» якой (ад Вены да Стамбула і затым Санкт-Пецярбурга) дастаткова пераканаўчая нават для сучасных турыстаў, не кажучы пра пісьменнікаў і ўрачоў.

Аднак гаворка ідзе хутчэй пра ўнутранае разняволенне, пра тыя ўнутраныя перадумовы жаночай эмансіпацыі, якая хутка набыла яшчэ адзін і таксама дасюль незнаёмы абрыс. Гэта абрыс часам фанатычнай, але заўсёды шчырай, адданай і самаахвярнай ахоўніцы і абаронцы. І ўжо не толькі свайго сямейнага асяродку ці свае жаночай годнасці і чалавечай незалежнасці, але гордай пабopніцы тае часткі грамадскай і касмічнай гармоніі, якая называецца Радзімаю.



Развітанне з інсургентам (з карціны А. Гротгера, 1860-я гг.)

Свой знакаміты верш «На смерць палкоўніка» Адам Міцкевіч прысвяціў менавіта адной з такіх дзёрзкіх жанчын, удзельніцы паўстання 1830 – 1831 гадоў Эміліі Плятэр. Яна сабрала атрад у 400 чалавек, які дзейнічаў на тэрыторыі Віцебшчыны. Загінула Эмілія ў 25 гадоў. Яе паплечнік, славуты Ігнат Дамейка, лічыцца нацыянальным героем Чылі. Імя легендарнай Эміліі Плятэр цяпер усё часцей прыцягвае ўвагу паэтаў і мастакоў.

Паступова жаночая ідэя набывае нацыянальна-вызваленчых арыенціры. Сёння мы з упэўненасцю можам сказаць, што жаночая думка Беларусі XX стагоддзя фарміравалася ў кантэксце барацьбы народа за перспектывы незалежнасці, чаму папярэднічала паўстанне 1863–1864 гадоў у Польшчы, Беларусі і Літве, жорстка падаўленае царскай Расіяй. Да ідэй Кастуся Каліноўскага многіх жанчын прыцягвала менавіта непрыняцце кіраўніком інсургентаў свету няроўнасці і прыгнёту. Асабліва гнеўна гучалі яго выступленні супраць непасільнай жаночай працы на паншчыне. Жанчыне-працаўніцы і жанчыне-маці Каліноўскі прысвячаў нават вершы. Мяркуючы, што толькі карэнныя пераўтварэнні грамадства могуць змяніць жаночыя лёсы, народны абаронца да вырашэння жаночага пытання падыходзіў з пазіцый рэвалюцыянера-дэмакрата.

З гэтым бунтарскім перыядам звязана дзейнасць Камілы Марцінкевіч, дачкі знакамітага паэта. Першая жанчына-дысідэнтка была нават змешчана за свае палітычныя погляды, скіраваныя супраць царскіх уладаў, у багадзельню для вар'ятаў, але выпушчаная пасля маніфестацый пратэсту. Калі ўспыхнула паўстанне 1863 года, яна разам са сваімі каляжанкамі зноў выступіла супраць імперскага гвалту, вывеўшы жаночую дэманстрацыю ў нацыянальных апратках і з адпаведнымі песнямі на вуліцы Варшавы. Арганізавала дапамогу арыштаваным паўстанцам, якіх адпраўлялі ў Сібір. Нібыта прадчувала ўласны лёс.

Побач з палітычнай ссыльнаю К. Марцінкевіч з'яўляецца яшчэ адна каларытная фігура – Ева Філінская. З малалецтва асірацелая, яна актыўна і ўпарта займаецца самаадукацыяй, перамагаючы галечу і іншыя жыццёвыя нягоды. Уключаецца ў барацьбу супраць імперыі насілля. Была арыштавана і разам з дзецьмі адпраўлена ў Сібір. Калі вярнулася на радзіму, напісала цікавыя ўспаміны, згадваючы свае пакутлівыя этапы і сустрэчы з рознымі людзьмі. Яе пяру належыць і двухтомная аповесць "Герсілія" (1849), створаная якраз у той час, калі іх аўтарка занялася справай адукацыі дзяцей.

Марыя Багушэвіч... Гэтае імя яшчэ адной выдатнай змагаркі супраць прыгнёту звязана са Случчынай. Памерла ад сухотаў па дарозе ў ссылку. Пакінула пасля сябе цікавы дзённік.

Спачуваннем простаму люду і асуджэннем лянівай шляхты, жорсткасці, што разбурае маральныя каштоўнасці, прасякнуты і мемуары Габрэлы Пузыні са Свіры.

З асобамі многіх такіх прадстаўніц новай еўрапейскай жаночай грамадскай ментальнасці знітаваны рамантычныя нацыянальна-вызваленчыя ідэалы. Вядомая пісьменніца таго часу, «гродзенская самотніца» Элаіза Ажэшка, якая брала ўдзел у паўстанні 1863 года, згадала пра яго і сваіх сяброў-інсургентаў у эсэ «Глорыя віктіс!» – «Слава пераможаным!». Менавіта з такім падтэкстам Беларусь пачатку XX стагоддзя, забраная ў ланцугі нацыянальнага ўціску, уступала ў эпоху капіталізму. Уласна беларусы ўспрымаліся адміністратыўнай гайнёю як сялянская, «мужыцкая» нацыя «тутэйшых» без права на незалежную будучыню, без роднай мовы. І гэта ў той час, калі беларуская мова была роднай для большай часткі насельніцтва, пра што сведчыць статыстыка. У 1904 годзе былі надрукаваны вынікі перапісу 1897 года, згодна з якім ў найбольш прэзентатыўнай Мінскай губерні пражывала больш за два мільёны чалавек (з іх 50 % жанчын). Саслоўны склад наступны: патомная шляхта – 0,34 %, чыноўнікі – 0,34, святары – 0,25, купцы – 0,16, мяшчане – 23,6, сяляне і казакі – 71,76 %.



Магдалена Радзівіл і Эліза Ажэшка

Паказальна, што сярод патомнай шляхты перавага аддаецца менавіта беларускай мове (57,83 %), рускай (8,8 %), польскай – (27,75 %). Беларускую мову назвалі сваёй роднай таксама 89,61 % сялян. Такім чынам, навязаная ў далейшым чыноўнай адміністрацыяй думка аб тым, што беларуская мова гістарычна адмаўлялася як простым людам, так і патомнай шляхтай, не мае падстаў. У гэтым сэнсе нас найперш цікавіць роля жанчыны – асабліва ў найбольш населенай сельскай мясцовасці. Таму падкрэслім, што менавіта дзякуючы жанчынам у сялянскім і шляхецкім асяродку стагоддзямі ствараўся і мацаваўся беларускі лад жыцця. Не апошняе месца займала яна і ў сямейнай эканамічнай стабілізацыі. Не памяншаючы ролю мужчын, адзначым, што менавіта жанчына-маці, жанчына-гаспадыня часта была адзінай карміцелькай у сям'і, паколькі ва ўмовах наступальнага капіталізму на заходнія землі пранік «вірус» першай эканамічнай міграцыі – пошуку капейкі ў чужым краі, што змушала мужчын надоўга пакідаць родны кут. Беларускія жанчыны, як сялянкі, так і шляхцянкі, заставаліся на месцы і сумяшчалі сямейныя абавязкі з цяжкаю працаю ў полі ці на фабрыцы. Яны, відома, былі пяшчотнымі маці, хаця спаконвеку ўскладвалі на свае плечы цяжкія мужчынскія абавязкі, думаючы пра будучае. Таму заўсёды беларускую жанчыну паважалі і ў сям'і, і ў сельскай абшчыне. З другога боку, жанчыны Міншчыны ці Гарадзеншчыны пастаянна адчувалі цяжар патрыярхальнай традыцыі і ў размеркаванні ўлады, і ў дамініраванні сацыяльных роляў. І ўсё ж, як бы цяжка ні было, беларуская жанчына заўжды заставалася галоўнай захавальніцай народнай культуры, гуманістычнай грамадскай маралі, нацыянальных традыцый.

У канцы XIX – пачатку XX стагоддзя з развіццём грамадскіх супярэчнасцей новага тыпу, аб чым сёння ярка сведчаць цэлыя тамы архіўнай дакументалістыкі, узнікла сітуацыя жаночага масавага працістаяння старым умовам, замшэламу сацыяльнаму дыктату. На агульным шэрым фоне сацыяльна-эканамічнага і палітычнага ўціску была «аддушына»: у беларусаў узнікла магчымасць пасля атрымання першапачатковай адукацыі ў часовых «дарэктараў» ці на курсах працягваць вучобу ў такіх буйных гарадах, як Масква, Санкт-Пецярбург, Варшава. Калі нават у Заходняй Еўропе жанчына-адвакат ці ўрач успрымалася як грамадская анамалія ці «двухгаловае цялё» (тэрміналогія прэсы таго перыяду), жанчыны з беларускіх двароў усё часцей бясстрашна ад'язджаюць у вядомыя універсітэцкія і прамысловыя цэнтры імперыі і нават за яе межы. Яны ад'язджалі з роднае хаты не толькі ў пошуках сямейнага шчасця, але найперш з надзеяю атрымаць роўную з мужчынамі адукацыю, што асацыявалася з набыццём пэўнай свабоды, пачуцця годнасці. Пачынаецца перыяд ломкі патрыярхальнага погляду на адукацыю і сацыяльную ролю жанчын. Узніклі першыя жаночыя вышэйшыя курсы, асабліва педагагічныя і медыцынскія, першыя грамадскія жаночыя аб'яднанні. Эпоха класічнага капіталізму, палітычных катаклізмаў «падаравала» жанчынам не толькі першыя чыгункі і фабрыкі, але таксама вопыт сусветнай вайны і масавага палітычнага руху. У выніку пачала разбурацца стагоддзямі наладжаная практыка грамадскага, у тым ліку юрыдычнага, адчужэння цудоўнай паловы чалавецтва ад сфераў навукі, культуры, палітыкі, эканомікі. Новая беларуская жанчына кардынальна мяняла свой светапогляд, пачаўшы працяглую самасцвярджальную барацьбу за свае правы. Праўда, шлях да асветы суправаджаўся пошукамі работы – сродкі патрэбны былі не толькі на аплату вучобы, але і кватэры і г.д. Цяжкія выпрабаванні чакалі жанчыну і ў працэсе ўключэння яе ў вытворчую сферу. Беларускі капіталізм-прыгнятальнік быў не толькі з мужчынскім, але і з жаночым тварам. У гэтым сэнсе паказальным можна лічыць розныя паведамленні ў газетах 1912 года, напрыклад аб становішчы работніц Гомельскай капялюшнай майстэрні, дзе панавалі даволі «дзіўныя норавы». У пачатку сезона гаспадыня (мадам Сафі) набірала паболей майстрых, не забываючы пра ўласную выгаду. І майстрыхі, спадзеючыся мець работу цэлы год, згаджаліся на самую мізэрную аплату. Але гора дзяўчатам, якія не змаглі заслужыць прыхільнасці гаспадыні. Яна бязлітасна эксплуатавала іх, імкнучыся ператварыць у машыну. Як паведамляў карэспандэнт, яе грубая сварка, што не мела межаў у абразах, даходзіла да пошласці... «І вось, калі сезон праходзіць і работы становіцца ўсё меней, вось тут і пачынаецца сапраўдны здзек». У такой абстаноўцы шырыцца жаночы рух пратэсту. Становішча жанчын на фабрыках таксама цяжка паддаецца апісанню.

**Валянціна КОЎТУН**

(Працяг будзе)

*З родных ваколіц*

# Вясна на Бярэзінскім канале

Чыстая стужка вадзянога блакіту паказвае кірунак глыбокага рэчышча Бярэзінскага канала, які разрэзаў зарослую воднай расліннасцю паверхню мелкага, заглеенага возера Бярэшча. У вусці былога волата дамбы амаль зраўняліся з навакольнымі нізінамі і цесна да самых краёў запоўнілі штучнае рэчышча талымі водамі.

Цераз колькі соцень метраў ад вусця больш моцная берагавая глеба не дазволіла распаўзціся зямлі, дастанай калісь прыгоннымі. Узвышаецца яна роўнымі бясконцымі дамбамі, што абступаюць былы фарватэр, на дне якога звіваецца сучаснае заняпалае рэчышча. Кідаецца яно ад дамбы да дамбы. Толькі ў камерах (паміж шлюзамі) абкладзеныя напаўгнілымі бярвеннямі берагі вось ужо на працягу 200 гадоў трывала трымаюць плынь паміж сабой, надаючы ёй вызначаны нашымі продкамі напрамак.

У адным месцы гаспадар тутэйшых мясцін бабёр рашыў паспаборнічаць з тагачаснымі гідрабудаўнікамі ў дойлідстве. Пабудаваў ён цераз рэчышча плаціну, якая падняла ўзровень канала на некалькі дзесяткаў сантыметраў.

Нечакана з-за цёмна-зялёных хваін перад вачама выраслі гіганцкія бярозы-волаты. Іх ствалы немагчыма абхапіць двум падарожнікам. У народзе вялікія дрэвы называюць "кацярынінскімі". Распавядаюць легенду, што іх калісь пасадзілі па ўказанні Кацярыны II, каб умацаваць каранямі дамбы. (Звесткі недакладныя, бо Кацярына II царыла да будаўніцтва канала.) Шмат бяроз захавалася. Аднак большасць іх вятры, навальніцы і час ператварылі ў гіганцкія мёртвыя свечкі. Ад іншых засталіся толькі абвугленыя пні.

Перад адзінай узбярэжнай вёскай Валова Гара апошні буйны ручай разразае левабярэжную дамбу. За яго вусцем плынь у метровай шырыні рэчышча канала зусім спыняецца, вада набывае мутна-сіву колер, глыбіня змяншаецца да трох – чатырох дзесяткаў сантыметраў.

У вёсцы, паднырнуўшы пад руіны шлюзаў, канал ператвараецца ў невялікі ручаёк. Нараджае яго вадаспад, які звальваецца з паўтараметровай вышыні сучаснай плаціны. З гідразбудаваннем водная роўнядзь набыла, мабыць, першапачатковы ўзровень.

Прыгожая вёска Валова Гара. Хаты вяскоўцаў раскінуліся ўздоўж канала. У пачатку і канцы яе захаваліся дзве хаты са стромкімі дахамі – былыя вартавыя пункты. На вуліцах (а імі служаць дамбы) узносяцца ў неба "кацярынінскія" бярозы. З абодвух бакоў Валову Гару акружае стары хваёвы лес.

Толькі не шануюць валавагорцы былога працаўніка, які даў жыццё вёсцы. Пакатыя берагі канала ператварылі яны ў сметнік бытавых адходаў, звалку рознага ламачча.

У канцы вёскі ўзровень вады, падтрыманы плацінай, пастулова зніжаецца. Нерухомая водная паверхня гойдаецца толькі што ад подыху ветру. За Валовай Гарой вада ў канале загадкава знікае. Тут жа знаходзіцца і ключ да разгадкі – пабудаваная не так даўно другая плаціна, якая рэгулявала сцёк вады з возера Плаўна, разбурылася. А каб змесціва вадаёма не апынулася ў Балтыйскім моры, работнікі Бярэзінскага дзяржзапаведніка ў двух месцах перасыпалі рэчышча пясчанымі валамі. За імі ўзровень канала падскоквае на некалькі метраў.

Безумоўна, трэба берагчы возера. Але ж ці цаной страты 192-гадовага волата, працаўніка, карміцеля, прыгажуна? Хутчэй за ўсё ў запаведніку думаюць будаваць плаціну, бо, калі прарве валы, знясе не толькі возера, але і Валову Гару. Аднак плаціна рухнула ўжо, а да яе аднаўлення пакуль яшчэ не прыступалі. Дарэчы, давайце паслухаем меркаванні саміх валавагорцаў.

– Некалькі гадоў таму канал меў страшэнную глыбіню, – распавядае Мікалай Красковіч. – Вадзіліся ў ім самы, ментузы, шчупакі.. А цяпер няма канала, няма рыбы.

– Летам застаялая вада зацвітае, зарастае расліннасцю, – падтаквае яму Іван Кульба. – І гэта пры цэлай плаціне пачалося. Цяпер жа невядома, што будзе. А рака Сергуч да таго запоўніла возера, што яно разлілося па прыбярэжным лесе.

Раней чуў пра распаведзенае, цяпер убачыў на свае вочы. Не магу не згаджацца з вяскоўцамі. Думаю, што прыслухаюцца да іх голасу і кіраўнікі.

Шуміць верхавінамі дрэў цёплы ветрык, з абагрэтай глебы ўзнімаецца лёгкі туман, рознагалоса спяваюць птушкі. Зямля радуецца прыходу вясны. Не радуе яна толькі Бярэзінскі канал, бо ў яго жыцці наступіла глыбокая восень.

***Уладзімір ШУШКЕВІЧ,***
***г. Лепель***

# Святы камень

Кожны, хто ішоў па дарозе ад Смілавіч да Лядаў, звяртаў увагу на ўпрыгожаны зверху вышытым ручніком велізарны валун, які ляжаў непадалёк ад Святой горкі. Мы, дзеці, затаіўшы дыханне, слухалі расказы дарослых, легенду пра гэты камень. Даўным-даўно, калі рыба кішэла ў рэках і азёрах і шмат звяр'я ды птушак вадзілася ў лясах, на зямлю спускалася Маці Божая. Ступіўшы на гэты камень, яна пакінула на ім адбітак нагі... Цікаўныя, мы кожны раз, аказваючыся ў тым месцы, падсаджвалі адзін аднаго на валун, дзе з непрыхаваным страхам разглядалі ўглыбленне на ім, якое вельмі нагадвала адбітак чалавечай ступні. Мы ўяўлялі сабе Уладычыцу Нябесную, якая ляціць у паднябессі і вось-вось апусціцца побач. Кожны марыў, аб чым ён папросіць Маці Божую. Я хацеў прасіць, каб яна вярнула мне бацьку, які загінуў на фронце каля заснежанай Масквы...

Колькі людзей з многіх пакаленняў, стоячы ля гэтага Святога каменя, упрыгожанага расшытымі ручнікамі, звярталася да Пана Бога з мальбой аб лепшай долі, дажджах, ураджаях... Колькі жанчын са Смілавічаў і навакольных вёсак тут праліло слёз, молячы аб збаўленні ад заваёўнікаў, якія вал за валам каціліся з усіх бакоў на нашу шматпакутную зямлю: германскія крыжакі-рыцары і татарскія коннікі, шведскія ваяры і маскоўскія стральцы, крывавыя банды палкоўніка Налівайкі – хаўрусніка гетмана Багдана Хмяльніцкага – і французскія гусары, якія трымалі сваіх коней у Лядзенскім храме, і нарэшце – нямецка-фашысцкія акупанты, якія рабавалі, забіралі ў палон родных, залівалі нявінны крывёю святую беларускую зямлю. Колькі стогнаў чуў гэты камень, колькі сабраў ён псіхічнай энергіі многіх і многіх людзей, якія прыходзілі сюды ў радасці, а найбольш – у горы...

Здавалася б, ён тут будзе ляжаць вечна, пакуль жывуць людзі, якія з пакалення ў пакаленне перадаюць паданні аб Святым камені. Ён нікому не замінаў, не перашкаджаў. Дык не. Знайшліся такія, каму ручнікі на Святым камені рэзалі вочы больш, чым быку чырвонае. Знішчылі яго, раскалоўшы спачатку ўзрывам, а затым размалоўшы на каменедрабілцы, што працавала ля Смілавічаў, калі рэканструявалі ў шасцідзесятых гадах шашу Мінск–Магілёў. Шчэбень, які ўтварыўся, засыпалі ў палатно дарогі ля Заполля, што ў двух кіламетрах ад мястэчка Смілавічы. Кажуць, тыя, што рабілі гэтую справу, хутка памерлі адзін за другім. А тое месца шашы цяпер кожны год бярэ свае ахвяры: гінуць пад коламі аўтамабіляў старыя і малыя, мужчыны і жанчыны... А зусім нядаўна загінуў мой родзіч Валера, цудоўны хлопец, пакінуўшы сіратой чатырохгадовага сына і ўдавой маладую жонку.

Аналізуючы розныя па маштабе падзеі: гібель людзей у тым месцы, дзе рассыпаны рэшткі Святога каменя, трагедыю на Нямізе, дзе на касцях продкаў была арганізавана гулянка ў адно з найвялікшых хрысціянскіх святаў, Чарнобыльскую катастрофу, думаю: ці не кара гэта Божая нам за бяспамяцтва, за адмову ад усяго роднага: мовы, культуры – святыняў, якія звязваюць нас з продкамі?

**Трэба павучыцца ў Расіі.** Там, дзе рускай мове, здавалася б, нічога не пагражае, у Дзярждуме існуе і працуе камітэт у абарону рускай мовы, на тэлебачанні і ў іншых СМІ сістэматычна выступаюць чыноўнікі рознага рангу па гэтым пытанні. Нават за межамі сваёй краіны расіяне абараняюць усё рускае, як нядаўна яны рашуча выступілі супраць уціску рускай мовы ў Латвіі.

У нас жа ўсё наадварот. На вачах гіне наш Святы камень, наш падмурак – беларуская мова. І дзе? На сваёй радзіме! Адна за другой закрываюцца беларускія школы, а нашу ўладу і большасць людзей чамусьці не хвалюе, што яшчэ так далей бяспамяцтва і...

Ці не таму Бог пасылае на нас розныя кары?

***Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ***

*У тэатры "Зьніч"*

# Чакаем гасцей!

***Сакавіцкі рэпертуар паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч", які працуе ў памяшканні касцёла святых Сымона і Алены, складаецца з трох пастановак.***

У рамках абанемента "Тайна зьнічнага святла" **23 сакавіка** пройдзе музычна-паэтычная імпрэза **"Падары мне сваю адзіноту"** з удзелам паэта Міколы Шабовіча. Ягоная лірыка як найлепей стасуецца да гэтай светлай пары года. У сустрэчы бяруць удзел кампазітар Мікола Яцкоў і артыст Мікола Лявончык.

**25 сакавіка** ў выкананні заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Шэлестава пройдзе монаспектакль **"Кроткая"** паводле аповесці Ф. Дастаеўскага. Гэта роздум немаладога чалавека над пройдзеным жыццём, ягоная самаацэнка, роздум над вечнымі праблемамі.

Усе спектаклі пачынаюцца а 19-й гадзіне.

Добры сюрпрыз паэтычны тэатр падрыхтаваў сваім гледачам: **24 сакавіка** на ягонай сцэне пройдуць гастролі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа. За дзень госці тройчы пакажуць музычную казку Людмілы Рублеўскай **"Прыгоды вандроўнага прынца"** ў пастаноўцы заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Віталя Баркоўскага. Пачнуцца яны а 11-й, а 13-й і а 15-й гадзінах.

Гэта рамантычная гісторыя пра пошукі сапраўднага кахання і сапраўднай прыгажосці. Вандроўны рыцар Янук Шукайла-Залескі закаханы ў князёўну Даратэю і збіраецца вызваліць яе ад пачварнага Кадука. Што тады яму да сціплай ляснай Мятлушкі? Але ў казачным свеце спектакля ўсё інакш, і рэчы дзіўным чынам пераўтвараюцца. Героі годна праходзяць праз усе выпрабаванні. Рыцар знаходзіць сваю Чароўную Даму.

Маляўнічае, феерычнае відовішча нікому не дасць засумаваць. У спектаклі шмат музыкі і танцаў... Рыцарская мінуўшчына, беларускі фальклор, сімвалічнасць персанажаў і падзеяў напаўняюць спектакль філасофскім сэнсам, а захапляльная інтрыга, дынамічнасць, прыгожыя дэкарацыі і выдатнае акцёрскае выкананне спрыяюць займальнасці і відовішчнасці.

**На здымку:** сцэна са спектакля "Прыгоды вандроўнага прынца"



*Увага, сябры тэатра!*
Паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" запрашае да супрацоўніцтва зацікаўленых асобаў па арганізацыі гледача на спектаклі тэатра. Заробак – ад зробленага.
Па даведкі просьба звяртацца па тэлефонах 231-75-53 і 8-0296-15-26-79.

*І тчэ, забыўшыся, рука*

## Паэзія нітак

Вось ужо 12 гадоў існуе ў Гродне студыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Паэзія ў нітках». За вялікія дасягненні ў мастацкім вышыванні і яго прапаганду сярод насельніцтва ў 2002 г. студыя атрымала званне народнай.

У музеі абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці адкрылася выстаўка работ удзельнікаў студыі і яе кіраўніка Аляўціны Кавалеўскай «Сугучча сэрцаў». Экспазіцыя вышыўкі яскрава сведчыць аб творчых дасягненнях удзельнікаў студыі за апошнія 2 гады.

Сёння заняткі наведваюць людзі розных прафесій і пакаленняў – педагогі і бібліятэкары, студэнты ВНУ, навучэнцы каледжаў, школьнікі, пенсіянеры. Некаторыя выпускнікі ўжо самі кіруюць гурткамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Галоўны накірунак навучання ў студыі – шматслойная вышыўка гладдзю, тэхналогію якой распрацавала А. Кавалеўская. Яна стварыла па сваіх эскізах калекцыю цікавых вышывак-карцін.

Яе таленавітыя вучаніцы А. Гур'ева, Ж. Бакурская, Г. Бойка і іншыя таксама паспяхова працуюць у гэтай тэхналогіі. У экспазіцыі прадстаўлены тры іхнія калектыўныя вышыўкі: «Свята ўраджаю», «Калядаванне», «Жавароначкі, прыляціце».

Навучэнцы студыі – актыўныя ўдзельнікі рэспубліканскіх, абласных, раённых, гарадскіх выставак, святаў, фестываляў. Паспяхова прайшлі ў 2002–2003 гадах персанальныя выстаўкі А. Кавалеўскай, Ж. Бакурскай, А. Гур'евай. Выязныя выстаўкі-студыі рэгулярна адбываюцца на прадпрыемствах, у бібліятэках горада, у раёнах вобласці.

Да 80-годдзя Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, на базе якога існуе творчы калектыў, А. Кавалеўская вышыла традыцыйны ручнік і беларускі народны касцюм.

*Алена ХРАМКОВА,*
*вядучы метадыст абласнога метадычнага цэнтра,*
*г. Гродна,*
*газета «Культура»*



*Беларускі дом. XXI стагоддзе*

*Фота Міхася ХАМЦА*

## Наша віктарына

У № 3 «Краязнаўчай газеты» за студзень 2004 года мы паведамлялі, што летась па рашэнні рэдкалегіі дзеля бліжэйшага супрацоўніцтва з чытачамі, асабліва маладымі, у нашым выданні праводзілася віктарына «Як ведаем сваю Даўніну?» Паведамлялі і імёны, прозвішчы пераможцаў, якія далі свае адказы на 23 пытанні ў некалькіх турах.

Прыемна, нават вельмі прыемна паўтарыць: нашы спадзяванні спраўдзіліся. У ліку пераможцаў і яны, маладыя, якія ўжо зразумелі, што такое быць патрыётам Бацькаўшчыны, пасапраўднаму вывучаць нашу гісторыю, мову і культуру: Андрэй Трусаў (СШ № 49 г. Мінска – першае месца), Сяргей Макарэвіч, Андрэй Собаль і Яўген Сярко (вучні з Вілейкі – трэцяе месца).

Яшчэ раз дзякуем усім за ўвагу да нашых пытанняў-клопатаў, за тое, што Вы, зацікаўленыя спецыяльна, свядома трацілі час, каб зазірнуць у энцыклапедыі і ў іншую літаратуру, прадумаць, прааналізаваць і напісаць адказ (шаноўны вучань Андрэй Трусаў фактычна стварыў цэлую брашуру).

Напомнім: пытанні леташняй віктарыны датычыліся перыяду нашай гісторыі, мовы і культуры да XIII стагоддзя. Як вядома, гісторыя Беларусі з пачатку XIII стагоддзя, асабліва з яго другой паловы, пачынае «праясняцца», «засвечвацца» ў ацалелых, захаваных летапісах – асабліва ў «Іпацьеўскім», у «Галіцка-Валынскім раздзеле», дзе ёсць пэўныя (часамі вельмі суб'ектыўныя) звесткі пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага і яго стваральнікаў.

Вырашана: у гэтым годзе прадоўжыць пытанні віктарыны, але прапаноўваць іх няшмат, каб, па-першае, чытач меў час на падрыхтоўку і, па-другое, каб была магчымасць друкаваць лепшыя (і спрэчныя) адказы, патрэцяе, каб чытачы выказалі сваю думку, пагаджаліся ці не.

У пачатку кожнага квартала – пытанне (пытанні), па заканчэнні квартала – публікацыі адказаў ці вытрымак з іх. Вось у першым сакавіцкім нумары за гэты год змяшчаем нашы пытанні і чакаем на іх адказу (нават на працягу года), але самыя першыя адказы апублікуем у красавіку.

Другі квартал (красавік–чэрвень) – пытанні у першых сакавіцкіх нумарах, трэці квартал (ліпень–верасень) – пытанні ў першых ліпеньскіх нумарах, у чацвёртым квартале (лістапад–снежань) – пытанні ў першых лістападаўскіх нумарах.

Дамовіліся?

Дзякуй за згоду.

***Вось пытанні віктарыны першага тура гэтага года:***

❶ Пачатак XIII стагоддзя. Наспяваюць, адбываюцца пераломныя падзеі (на Усходзе і на Захадзе), што пакінуць свой след на лёсах пазнейшых стагоддзяў. Якія гэта з'явы, падзеі, асобы?

❷ Магчыма, і легендарныя князі з сённяшніх беларускіх зямель вядомыя да 1230 года? Хто з іх і адкуль, магчыма, браў удзел у сур'ёзнай баявой праверцы з татара-манголамі на Калцы?

❸ Прыкладныя час, гістарычныя прадумовы ўзыходжання зоркі Міндоўга?

*Ініцыятыва*

## Засяваем з Вайцюшкевічам і... Агінскім

Супольны праект беларускіх музыкаў «Я нарадзіўся тут» добра вядомы не толькі аматарам музыкі. Нагадаем, што нашыя сучаснікі паглядзелі на вядомыя беларускія мелодыі ды песні розных часоў па-свойму, у рэчышчы сваёй творчай манеры. Адна спроба да паланеза Агінскага напісаць словы ды праспяваць чаго вартая!

І натуральнае жаданне хаця б адзін раз гэты альбом пачуць ужывую... Такая нагода будзе 27 сакавіка. У канцэртнай зале «Мінск» пройдзе канцэрт, у якім бяруць удзел гурты «N.R.M.», «Крыві», «Палац», Зміцер Вайцюшкевіч, Аляксандр Памідораў ды іншыя зоркі. Пачатак а 19-й гадзіне, квіткі каштуюць ад 8 да 25 тысячаў рублёў. Ладзіць канцэрт Беларуская Музычная Альтэртатыва (BMAgroup).



## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Працяг. Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**Архітэктура** (лац. ад грэч. будаўнік) – дойлідства, будынкі і іншыя адзіночныя і комплексныя збудаванні, прызначаныя для жыцця і дзейнасці чалавека; умельства праектаваць і ствараць збудаванні і іх комплексы ў адпаведнасці з прызначэннем, сучаснымі тэхнічнымі магчымасцямі, эстэтычнымі поглядамі грамадства. У адрозненне ад выяўленчага мастацтва, дзе многа вырашаецца малюнкам, колерам, пластыкай, светлацененем і інш., архітэктура сама з'яўляецца часткай матэрыяльнага свету і адлюстроўвае яго ў мастацкіх вобразах, таму яна адначасова галіна матэрыяльнай культуры і мастацкай творчасці. Выконвае пэўныя ідэйна-эстэтычныя задачы грамадства, яго кіруючых вярхоў.

Паводле функцыянальнага прызначэння архітэктура падзяляецца на шмат відаў і падвідаў: жыллёвая, прамысловая, грамадскія будынкі і збудаванні, садова-паркавая. У асобныя галіны выдзелілася ў забудове гарадоў і вёсак. Ставячы сваёй задачай мэтазгоднасць, трываласць і прыгажосць, архітэктура на асобных тэмах празмерна паддавалася патрабаванням ідэалогій, валюнтарысцка-кан'юктурным рашэнням.

Лепшыя творы архітэктуры ярка адлюстравалі дух сваёй эпохі, яе густ і ўмельства. Напрыклад, егіпецкія піраміды (светапогляд фараонаў і жрацоў), афінскі акропаль і рымскія форумы (сутнасць рабаўладальніцкай дэмакратыі), збудаванні стыляў барока і класіцызму (дваранская культура), небаскробы (хмарачосы) у ЗША і іншых краінах (росквіт капіталізму). Маскоўскі крэмль падкрэсліваў станаўленне, набіранне моцы рускай дзяржавы; Камянецкая вежа, замкі ў Лідзе, Крэве, Навагрудку, Міры, цэрквы ў в. Мураванка (Шчучынскі раён) і в. Сынковічы (Зэльвенскі раён) – з сістэмы абаронных умацаванняў нашага народа ад захопнікаў.



*Ільінская царква ў Віцебску (разбураная)*

У СССР архітэктура ў асноўным была дапасавана да практычных патрэб часу, у многім не выяўлялася фантазіяй, мастацтвам, з-за чаго часта яе называюць «шэрай», аддавала ўвагу канструктывізму, штучнай фарматворчасці, масавай забудове, праўда, з рознымі матэрыяламі і кампазіцыямі, элементамі азелянення. Новай класікай у ёй лічыўся маўзалей Леніна ў Маскве, у Мінску – груvasты Дом урада і г.д.

У архітэктуры важнае значэнне набываюць такія паняцці, як архітэктоніка, сіметрыя і асіметрыя, кантраст і нюанс, рытм, прапорцыі і маштабнасць, ансамбль, сінтэз мастацтваў, стыль і г.д.

У многіх краінах свету архітэктура мае нацыянальны характар, які выяўляецца ў лакальных асаблівасцях дойлідства таго ці іншага народа або пэўнага рэгіёна. Гэта залежыць ад асаблівасцей гістарычнага развіцця народа, яго эканомікі і культуры, этнічных і мастацкіх традыцый. Асабліва яркі нацыянальны характар маюць помнікі народнага дойлідства, дзе адлюстраваны народны мастацкі светапогляд, народная дэмакратычная культура. Адначасова да народнага дойлідства дадаюцца рысы і з іншых культур.

На беларускіх землях ранні жыллёвыя збудаванні адносяцца да часоў палеаліту (стаянкі каля в. Бердыж Чачэрскага і Юравічы Калінкавіцкага раёнаў). З эпохі неаліту і бронзавага веку захаваліся рэшткі пабудоў на палях і паўзямлянках. У перыяд распаду родавага ладу (жалезны век) існавалі розныя формы ў плане паселішчаў – гарадзішчы, размешчаныя на ўзгорках сярод балот і лясоў, на астравах і мысах, умацаваныя сістэмай валоў, равоў і драўляных збудаванняў.

Гарадзішчы былі цэнтрамі, вакол іх месціліся селішчы. У паўднёвых раёнах часцей будавалі зямлянкі і паўзямлянкі слупавай канструкцыі, у паўночных лясных раёнах пашырыліся зрубныя збудаванні, у цэнтральнай частцы Беларусі выяўлены рэшткі жылля абодвух тыпаў.

***(Працяг будзе)***

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск,
вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26.
E-mail:
kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 11. 03. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 448.
Тыраж 1050.